# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 8 (169), 22 ЛЮТАГА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ



"ПАРАД СЛЁЗ" ПАД ПОМНІКАМ ЛЕНІНУ • стар. 3

ЗНО: літаратурна-філасофскі сшытак • стар. 5 – 12

КАГО БЕРАЖЭ "МАЯ МІЛІЦЫЯ"? • стар. 14

ЗЛІТУЙЦЕСЯ, СПАДАР ЭРОЦІЧ • стар. 16




## Рыгор БАРАДУЛІН:

# "ІНТЭЛЕКТ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ ПРАКТЫЧНА НЕ ЗАПАТРАБАВАНЫ..."

* * *

*У дзяжы гісторыі вякі*
*Пакідаюць на завод рашчыну*
*Нацыі.*
*І як бы чужакі*
*Ні захацелі зруйнаваць Айчыну,*
*Напякуцца ўпарта праснакі*
*Духу напамінку*
*І ўспамінку.*
*Як бы там ні каркалі крукі,*
*Бацька перадасць акраец сыну,*
*Бо ў дзяжы гісторыі вякі*
*Пакідаюць на завод рашчыну.*

Рыгор Барадулін

**Напярэдадні 60-годдзя народнага паэта Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рыгора Барадуліна наш карэспандэнт гутарыў з ім аб вострых праблемах сённяшняга дня і будучыні дзяржавы. У прыватнасці, гаворка ішла і аб тым, як абараніць яе інтэлектуальны патэнцыял, якім чынам скарыстаць яго на патрэбу грамадства. Гаворка вылілася ў такі вось маналог.**

— Інтэлект нацыі — гэта пытанне і абстрактнае, і канкрэтнае, і філасофскае. Інтэлект нацыі складаецца з інтэлекту ў яго непасрэдным значэнні і абавязкова з сумлення, бо інтэлекту несумленнага быць не можа. Хітры розум, востры розум — так, але інтэлект без сумлення, як аўто без тармазоў. Што тут казаць, за 70 гадоў эксперыменту савецкай улады з людзей выбівалі ў асноўным сумленне, і выбівалася ўсё нацыянальнае. Нацыянальнае нівеліравалася,прычэсвалася, пачынаючы ад імёнаў і канчаючы ўсім астатнім. Напрыклад з Галныньша трэба было абавязкова зрабіць Галавіна, з Пеўня — Петухова, словам, усё на расійскі манер. І рабілася гэта быццам бы непрыкметна, затое пастаянна і мэтанакіравана. І зразумела, бо вялікадзяржаўны шавінізм — гэта фундаментальная навука, якая мае пад сабой некалькі стагоддзяў. Вялікадзяржаўны шавінізм і імперыялізм — блізкія паміж сабой, абапіраюцца адно на адно. Яны паступова разбуралі і менталітэт, які грунтуецца на інтэлекце, які павінен быць толькі нацыянальным, а потым ужо ўлівацца ў сусветны. А яшчэ — і дзяржаўным. Не — не вялікадзяржаўным, а дзяржаўным. Таму што менавіта дзяржава павінна дбаць пра свой інтэлект.

Далёка за прыкладамі хадзіць не трэба. Нашы цяперашнія папулісцкія кіраўнікі ўсіх рангаў — у парламенце і над парламентам — даказваюць: перш за ўсё — эканамічнае, эканамічнае, эканамічнае. Але ж зараз ніхто не будзе араць сахой, ніхто не будзе без сеялкі сеяць. Калі дбалі пра інтэлект у Японіі — а Японія практычна без сыравіны, без прастораў — дык, калі ласка, вось вам японскае дзіва. А яно не абстрактнае, у ім канцэнтруецца японскі інтэлект і японская дзяржаўнасць. У нас жа дзяржавы як такой практычна няма. Ёсць папяровы суверэнітэт, папяровая дзяржаўнасць. І толькі чуем балбатню аб празрыстых межах, што гэта такое — капронавыя яны ці нэйлонавыя? Наогул мяжа — гэта ж не Берлінская сцяна. І не абавязкова мяжа павінна быць з калючым дротам, з токам высокага напружання, з пагранічнікамі і сабакамі, з паласой, якая барануецца. Мяжа павінна быць па вялікім рахунку створана з нацыянальнага дзяржаўнага інтэлекту, з менталітэту народа. Вось гэта — мяжа!

З другога боку, тут пачынае дзейнічаць інтэлект міждзяржаўны, бо сам па сабе чалавек адзін не можа быць, як і адно дрэва не можа расці. Закранем крыху Расію. Калі б Расія пры яе багацця і вялізнай тэрыторыі дбала пра свой нацыянальны інтэлект, а не пра суб'екты федэрацыі, для ўсіх яе народаў было б лепш. Калі б квітнеў суверэнітэт інтэлектаў, гэта ішло б толькі на карысць, на самаўзбагачэнне, на абмен розумаў. Калі ж уводзяцца ў горад танкі, калі б'юць свой уласны народ і даказваюць, што ён — суб'ект федэрацыі, гэта, мякка кажучы, нецывілізавана. І каго знішчаць — свой жа народ? Баючыся, што імперыя разваліцца? Дык яна, безумоўна, разваліцца. Бо павінна быць так, каб федэрацыю прымалі душа і розум усёй расійскай нацыі.

(Заканчэнне на стар. 3)

СІТУАЦЫЯ

## Рыгор БАРАДУЛІН:

# "ІНТЭЛЕКТ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ ПРАКТЫЧНА НЕ ЗАПАТРАБАВАНЫ..."

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Што атрымліваецца ў нас? Чаму нашы кіраўнікі ніколі не гавораць ні пра культуру, ні пра інтэлект нацыі? А таму што для іх гэтая галіна закрытая. Гэта бадай тое ж, што першабытнаму чалавеку гаварыць пра камп'ютэр. Урэшце, усе кіраўнікі былой чырвонай імперыі ахвотна разважалі пра стан літаратуры, але ў музыку, бадай, не лезлі. У музыцы ім было арыентавацца цяжка. Праўда, Нікіта Хрушчоў хваліў "Рушнічок". А ўвогуле я разумею нашых высокіх кіраўнікоў, чаму іх раздражняюць словы "інтэлект", "розум", "інтэлектуальнасць". Як у народзе кажуць: калі сам не маеш, а ў суседа ёсць, дык не хочацца хваліць суседа. І кіраўнікі праблему абароны інтэлекту абыходзяць наўмысна. Бо, з аднаго боку, для іх яна незразумелая, а з другога — і ненавісная. Іх раздражняе тое, што нехта можа думаць, мысліць, абагульняць. Ім прасцей паабяцаць: вось мы заўтра, маўляў, падымем сельскую гаспадарку... А падымаюць як у тым анекдоце: "Ну, як, падымаеце сельскую гаспадарку?" — "Так, падымаем. Дзвюх кароў паднялі ўжо..." Дык вось і ў нас па такім жа прынцыпе ідуць. На жаль, кіраўнікі дзяржавы не дбаюць пра дзяржаўнасць. Адсутнасць жа такой выгадна і для мафіёзных структур, і для былой партнаменклатуры. Заўважце, увесь былы апарат партнаменклатуры, усе чыноўнікі — ніхто ж з іх не пайшоў на канкрэтную работу, не стаў за станок, ні з мятлой яго не ўбачыш, ні за трактар ён не сеў. Яны ж на лётаючых талерках у космасе не зніклі! Яны ўсе аселі ў цёплых месцах і, безумоўна, стараюцца з усіх сіл, каб усё было... як было. Вось толькі што яшчэ іх надта раздражняе — дык гэта наш герб і сцяг, хаця па-ранейшаму арыентуючыся на Расію, яны забыліся на тое, што ў яе свой сцяг, свой герб. Дык што, замест "Пагоні", асвечанай вякамі, замест спрадвечнага бел-чырвона-белага сцяга бэсэсэраўскі сцяг? Зялёны колер ніколі не быў характэрны для Беларусі, ды і наогул для Еўропы.

Мне часам здаецца, што нашы кіраўнікі з завязанымі вачыма гуляюць у жмуркі з Масквой. Яны пачынаюць даказваць, што вось, маўляў, адбываецца еўрапейская інтэграцыя. Але ж у Еўропе кожная дзяржава стагоддзямі развівалася асобна. Сапраўды, пасля такога высокага развіцця — і маральнага, і культурнага, і эканамічнага — можна аб'ядноўвацца, каб не згубіцца. Але каб у тым аб'яднанні, як у сапраўдным вытанчаным букеце, не страцілася сваё. Проста ж уліцца ў агульную лужыну — гэта нікому не патрэбна. Так што выйсце — толькі ў моцнай дзяржаўнасці. Але нічога не атрымаецца, калі дзяржава не будзе думаць, як ёй застацца дзяржавай, як ёй жыць. Ну а калі пачне думаць, дык вось тут ёй патрэбны будзе інтэлект!

Інтэлект жа беларускай нацыі практычна не запатрабаваны. Урэшце, для чаго нашаму цяперашняму парламенту інтэлект? Часам глядзіш, як яны перад мікрафонамі выступаюць — ну проста карыда. Тэлека-р-р-рыда... Самая інтэлектуальная частка нашага парламента, які завецца чамусьці Вярхоўным Саветам (заўважце, у Расіі — гэта Дума, а ў нас скрозь слова "савет" — насаветаваліся!), — гэта апазіцыя БНФ на чале з Зянонам Пазьняком. Але, разумееце, нашаму цяперашняму ўраду, парламенту, чалавек высокага інтэлекту, высокай нацыянальнай годнасці, які дбае пра дзяржаву, не даспадобы, і ўсё тут. У якіх толькі грахах Пазьняка не абвінавачваюць, пачынаючы з таго, што ён нібыта ў паліцыі служыў. Аднойчы ён вельмі іранічна адказаў на пытанне "што вы рабілі ў час вайны?". Ён сказаў — нарадзіўся... і пайшоў у паліцыю. А нарадзіўся ж ён у 44-м годзе, і ў сям'ю ягоную прыйшло пяць ці сем пахаронак з фронту, і бацька яго загінуў на той вайне... Вось вам і яскравы прыклад, да якой ступені недалёкага чалавека раздражняе разумны. Дарэчы, разгорнутая праграма выхаду з эканамічнага крызісу была толькі ў БНФ, ды і наогул тое, што гаворыць Зянон Пазьняк, спраўджваецца праз два — тры гады. Бо гаворыць ён не так, як функцыянеры. Урэшце, калі Беларусь як дзяржаву будаваць на ўзроўні калгаса, дык у нас усё нармальна.

А возьмем творчыя саюзы — спадчыну імперыі. Гэта тыя ж калгасы! Сталінскія калгасы з шыльдай інтэлігентнасці. Таму што нельга аб'яднаць людзей, якія па ўзроўні сваім, па светапоглядзе, нават па манеры апранацца, разыходзяцца, а іх зноў штучна збіраюць разам. Ніяк не можам адысці ад заганных стэрэатыпаў. А што, някепска таму-сяму жылося па партыйных планах. Па-мойму, у свой час у В'етнаме так было, што даводзілі план пісьменнікам. Іх ставілі на зарплату, згодна якой аднаму трэба было напісаць пра арашальны канал, другому — пра пасадку бамбука. А мастакі? Быў жа ў нас выпадак, калі жывапісец напісаў карціну, дзе Ленін прымае парад чырвонаармейцаў на фоне ўласнага маўзалея. Абсурд! Словам, саюзы сябе зжылі. І наогул, калі ў любой еўрапейскай краіне спытаць чалавека, колькі ў вас мастакоў, дык яму, каб пералічыць іх імёны, хопіць пальцаў дзвюх рук. У нас жа, асабліва калі быў Савецкі Саюз, даведнікі ўмяшчалі да 20 тысяч прозвішчаў пісьменнікаў. Забіць чалавека можна было такой кніжкай! Хіба можа быць столькі "інжынераў чалавечых душ"? Наогул, хай кожны стварае, усім месца хопіць; і папера знойдзецца, і нотная папера. Абы таленавіты быў па-сапраўднаму. Але цяпер вымярэнне адно: член Саюза мастакоў ці не член, кампазітар самадзейны ці прафесійны? Але было і такое раздзяленне, як гаварыў дыктар — "Мы перадавалі песні савецкіх і беларускіх кампазітараў." Зразумела, Лучанок — быў савецкім кампазітарам, які пісаў песні для ўсіх фестываляў — ад БАМа да Чылі. Семяняка, відаць, быў беларускім. Цяпер вось лямантуюць: заняпад, заняпад. Я разумею, што зараз наогул ніякай увагі ні да мастакоў, ні да пісьменнікаў, ні да кампазітараў. Жывем па прынцыпе: ратуйся, хто як можа. Мне асабліва балюча ўсведамляць, што маладыя творцы зараз робяць практычна тое ж самае, што іх старэйшыя калегі: прыстасоўваюцца да абставінаў. Раней дыктавала партыя — пра што пісаць або спяваць, цяпер дыктуе камерцыя, яго вялікасць даляр дыктуе...

А бізнес і культура — гэта вельмі складаная штука. Гэта амаль тое ж, што прастытуцыя і цнатлівасць. І працаваць у бардэлі, і застацца цнатлівым? Спонсарства ў нас своеасаблівае. Калі ўзяць сусветную культуру, дык там заўсёды былі фундатары, апекуны, усялякія фонды. Там сістэма адпрацаваная. У нас жа гэта проста адмыванне грошай, перавод безнаяўных у наяўныя. Як расказваў мне адзін рэжысёр, ён прыйшоў да спонсараў з просьбай ахвяраваць 6 мільёнаў, каб калектыў змог завяршыць здымкі карціны. Кіраўнік фірмы паклікаў камерцыйнага дырэктара і кажа: "Яму трэба 12 мільёнаў; рэжысёр удакладняе: трэба ж шэсць! А ў адказ яму:" Так, вам — шэсць"...

І зноў-такі ўсё ўпіраецца ў дзяржаву. Не думае дзяржава пра тое, каб праз інтэлект нацыі, яе талент выйсці ў Еўропу, у свет. Але ўсё ж ёсць у нас у дзяржаве асоба, якая канцэнтруе ў сабе той самы інтэлект нацыі, пра які мы марым, пра які сёння гаворым. Гэта — Васіль Быкаў. Па слову Быкава ведаюць Беларусь у свеце, а не па пастановах парламента і палкіх прамовах прэзідэнта. Я веру — людзей, якія зрабілі б гонар Айчыне, вялікае мноства. Толькі б дала ім магчымасць дзяржава рэалізавацца...

**Запісаў Барыс КРЭПАК**

# СОН У ЗІМОВУЮ НОЧ, АЛЬБО БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ "ПАРАДУ СЛЁЗ"

"Сталіца Беларусі. Помнік Леніну на плошчы імя Леніна. Каменны дзядуля ўсіх вякоў і народаў хітравата ўглядаецца ў суседнія будыніны абедзвюх "alma mater" тысячаў беларускіх юнакоў і дзяўчат, некаторых сённяшніх дзяржаўных мужоў. Урадавыя трыбуны нібыта пры святкаванні Першамая. На фасадзе Белага дома ўжо не скача ваяўнічы вершнік, замест "Пагоні" пад сонцам даспяваюць хлебныя каласкі.

Па пляцы гучна выбіваюць крок брытагаловыя хлопцы ў новенькіх, толькі-толькі з-пад іголкі "афганках" — учарашнія школьнікі ды студэнты. Тут жа, за міліцэйскім кардонам, іхнія бацькі і каханыя з кветкамі ў руках і слязмі ў вачах. Чамусьці адразу ўзніклі асацыяцыі з парадам у 41-м у белакаменнай. Праз хвіліну яны паўскокваюць у грузавікі і праз гадзіну-другую перасякуць паветраную беларуска-расейскую мяжу...

... І тут сярод неабстраляных ваяроў я ўбачыў самога сябе..."

Прачнуўшыся ў халодным поце, падумаў: чаго толькі не прысніш у зімовую ноч, нагледзеўшыся перад сном рэпартажаў аб баявых падзеях у Чачні. А хто ведае, што бачаць па начах сённяшнія дапрызыўнікі, прызыўнікі — салдаты тэрміновай службы, іхнія бацькі пасля шасці гадоў, як на Беларусь перасталі прыходзіць цынкавыя труны з чужой, афганскай, зямлі?

Але можна быць цвёрда ўпэўненым у адным: не будзе аніякага ўрачыстага парада, як у тым чорнабелым сне, як не было яго ў далёкім 79-м і ва ўчарашнім 94-м — пачатак вайны ў Чачні. І, падсумоўваючы вынікі расейскіх візіцёраў, не-не ды і задумваешся пра наступствы.

Мне ў сувязі з гэтым прыгадаўся выпадак са школьнага дзяцінства. Вясной 80-га ў быхаўскай вайсковай частцы на некалькі дзён была расквартаравана сотня "блакітных берэтаў" з Віцебскай дывізіі. Хлопцы хлясталі гарэлку, заляцаліся да мясцовых прыгажунь і з жартамі выхваляліся: "На вайну збіраемся!" І сапраўды, для быхаўчукоў не было сакрэтаў: з горада на Дняпры юнакі павінны былі адправіцца на савецка-афганскую мяжу. Адзін з невядомых мне хлапцоў так і не адчуў усіх жахаў сапраўднай вайны, бо падчас імправізаванай бойкі на вачах натоўпу, дэсантнік аступіўся і натыкнуўся на арматуру, што тырчэла з-пад асфальту. Жалезіна трапіла ў самае сэрца. Відаць, так было наканавана...

"Блакітныя берэты" зніклі так жа раптоўна, як і з'явіліся. А праз нейкі прамежак часу ў райцэнтр пачалі прыходзіць цынкавыя труны, нядбайна пафарбаваныя ў белы колер і абшытыя шклом.

Я на гэта ніколі не забудуся. Як не забудуся на слёзы мацярок, якія аплаквалі няхай і не сваіх сыноў. Не ведаю, мо тады так здавалася, але жалоба ў гэтыя дні была ўсеагульнай.

Нехта хоча, каб усё гэта паўтарылася: і слёзы, і "цынкавыя хлопчыкі".

Сярод маіх аднакласнікаў дзесяць паступілі ў вайсковыя ВНУ. Усе — па-за межамі Беларусі — у Піцеры, Кёнігу, Днепрапятроўску. Восем з іх — хто на працягу, хто пасля вучобы — падалі рапарты аб звальненні. Раманытка ў пагонах выветрылася з галавы даволі хутка. Адзін застаўся ў Расеі, спадзеючыся на вялікія "пад'ёмныя". Зараз ад яго ні слыху, ні дыху. Сям'я — у шоку. Другі — не ведаю, якім чынам (так яму пашэнціла), па размеркаванні трапіў у Мінскую вобласць. Прыехаў у расейскай вайсковай форме, у якой і ходзіць вось ужо на працягу некалькіх месяцаў.

Зарабляе па сённяшніх мерках няблага, але далейшую службу сваю лічыць бессэнсоўнай. Кажа, сярод вайскоўцаўназіраюцца хваляванні з нагоды чачэнскай вайны. І пасля падпісаных беларуска-расейскіх пагадненняў 6 студзеня прыехаў да мяне са словамі: "Усё. Больш не магу. Рускія наступаюць". Зараз з дня на дзень з нецярплівасцю чакае падпісання рапарта аб звальненні. Ён не жадае быць зброяй у дэспатычных руках палітыканаў дзяржавы, што знаходзіцца на правах "малодшага брата". Як не жадае быць начыннем для цынкавай бляшанкі. Як не мараць пра гэта і тысячы іншых беларускіх хлопцаў, будучых вайскоўцаў. А мо палітыкі акламаліся ўжо пасля афганскай вайны і думаюць іначай? І ад таго, напэўна, унутрыпалітычныя падзеі адбываюцца апошнім часам з такой хуткасцю? Пагадненне за пагадненнем, перамовы за перамовамі. Што нічога, акрамя пераносу "імперскай" мяжы да заходніх межаў Беларусі і размяшчэння расійскіх базаў на нашай тэрыторыі, не нясе. І калі да кожнага беларуса, вайскоўца са стрэльбай, будзе прыстаўлена па два расейцы з гарматамі.

Усё гэта вельмі нагадвае вялікую "чыстку" перад прыездам вялікага начальства. Хаця, візіт "бацькі" суседняй дзяржавы на самой справе адбыўся. А перад гэтым кіраўнікі дзяржаў Садружнасці на чарговым "саммiце" сабраліся для разгляду і зацверджання дакументаў, накіраваных на развіццё Дамовы аб калектыўнай бяспецы. Што цягне за сабою паглыбленне ваеннага супрацоўніцтва дзяржаў-удзельніц Дамовы, завяршэнне стварэння ўласных узброеных сілаў і далей у гэткім жа духу.

Значыцца, не проста так, мяркуючы па рэпартажах тэлевізіі аб нядаўніх вайсковых вучэннях Беларускага войска, эмблема на касках умоўнага праціўніка мела нейкае падабенства з выявaю атлантычнай зоркі — эмблемы NATO. Але гэта не гаворыць яшчэ аб тым, што ў сваіх умоўных праціўніках я бачу салдата з зоркай на Ілбе ці казака з шабляй нагало.

І нездарма жартаваў з нагоды сваёй вайсковай уніформы мой сябра-аднакласнік. Бо ўсё роўна беларуская, як дзве кроплі вады — аналаг расейскай. Ну, хіба толькі фурнітура мае сярэбранае адценне, а не залатое... Але ж беларускія генералы ўсё роўна не дужа спяшаліся змяніць старую эсэсэсэраўскую вопратку на новую, як не спяшаюцца прыняць і Закон аб альтэрнатыўнай вайсковай службе. І ля прахадной штаба беларускага войска, як і раней, стаяць на варце салдаты з чырвонай пяціканцовай на какардзе. А паколькі законы пішуцца пад пэўную асобу, пэўныя палітычныя абставіны, то можна быць упэўненымі, у сувязі з апошнімі падзеямі, як вынік беларуска-расейскага сяброўства, новаму закону давядзецца вой як доўга пыліцца на службовых паліцах. Але гэта можа быць не самае горшае. Затое, між іншым, прыгадаю: "па просьбах працоўных" пры Саўміне створана Камісія па нацыянальнай сімволіцы. І можам быць спакойнымі — яе члены папрацуюць на славу.

Асабіста мяне цікавіць наступнае: ці прадугледжваецца ў новым Законе палажэнне аб альтэрнатыўнай службе без зброі ў руках па маральна-этычных прычынах (не блытаць з рэлігійнымі меркаваннямі). Да прыхільнікаў гэтага ў дадзенай сітуацыі адносіць сябе і аўтар гэтых радкоў.

Хутка чарговы прызыў. З чым сустрэнуць гэтую, трэцюю вясну незалежнасці сыны Беларусі? Нават немагчыма дапусціць, што ім давядзецца служыць інтарэсам чужых "дзядзькоў" (нашчадкі якіх наўрад ці стануць у адзін шэраг з нашымі) і змяніць умоўныя, вучэбныя мішэні на жывыя.

А што тычыцца ўзгаданага на пачатку сну, то я не хацеў бы апынуцца на такім парадзе слёз...

**Міхась РАВУЦКІ,**
**грамадзянін прызыўнога ўзросту**

***Мастак В.Губараў, карціна "Грамадзянскі матыў". Звярніце ўвагу: гузік на гімнасцёрцы аздоблены двухгаловым арлом, а рука, што ціснe на мазгі, — бальшавіцкай зоркай. Карціна пісалася за савецкім часам, калі яшчэ меў юрыдычную сілу шосты артыкул Канстытуцыі СССР і сама гэта Канстытуцыя. Але мастак нібыта прадбачыў той час, калі на уніформе войска "дэмакратычнай" Расіі будуць спалучаны чырвоная зорка і двухгаловы арол...***




Алена РУДЭНКА

# МІФАЛАГІЗМ У МЫСЛЕННІ І МОВЕ



Свядомасць сучаснага чалавека (і грамадства) дзейнічае ў дзвюх мысліцельных парадыгмах: навуковай і міфалагічнай. Міфалагічны спосаб мыслення цалкам належыць архаічным культурам, але як пэўны фрагмент можа прысутнічаць і ў светаўспрыманні больш позняга соцыуму. У гэтым артыкуле зроблена спроба разгляду такіх элементаў міфалагічнага мыслення ў гісторыі беларускай мовы. Найбольш паказальнай з гэтага пункту гледжання з'яўляецца мова Вялікага княства Літоўскага, паколькі яго лексіка-семантычная сістэма склалася да навуковага светаўспрымання, якое прыйшло на змену міфалагічнаму і ў значнай ступені яго замяніла. Такім чынам, мова Вялікага княства Літоўскага багатая на ілюстрацыі да розных праяў міфалагічнасці мыслення нашых продкаў, паколькі яе існаванне адносіцца да таго часу, калі навуковай думкі, у нашым разуменні гэтага слова, яшчэ не існавала. Асабліва цікавае з гэтага пункту гледжання супастаўленне асобных пластоў лексікі сучаснай і старабеларускай моў.

Найбольш істотнай і спецыфічнай рысай міфалагічнага мыслення з'яўляецца яго сімвалізм. У міфалагічным мысленні недакладна адрозніваюцца суб'ект і аб'ект, прадмет і знак, існасць і яе імя, рэч і яе атрыбуты, адзінкавае і множнае, прасторавыя і часавыя адносіны, паходжанне і сутнасць. Міфалагічнае мысленне не вылучае вельмі істотных для нас супярэчанняў паміж натуральным і звышнатуральным, абстрактным і канкрэтным, рацыянальным і эмацыянальным. Сутнасць міфалагічнага сімвалізму — у пераносе вобразаў канкрэтных прадметаў на іншыя канкрэтныя прадметы, у сувязі з чым міфалогія станавілася своеасаблівай знакавай сістэмай, у тэрмінах якой успрымаўся і апісваўся ўвесь свет. У якасці сістэмы першабытнага светаўспрымання міфалогія ўключала ў сябе ў сінтэтычным адзінстве пачаткі рэлігіі, філасофіі, палітычных тэорый, данавуковых уяўленняў аб свеце і чалавеку. Міф як дамінуючы для нашых продкаў спосаб мыслення характэрны для архаічных культур, і з гэтай прычыны аддалены і ад сістэмы поглядаў Вялікага княства Літоўскага, і ад сучаснай сістэмы поглядаў. Аднак у якасці пэўнага ўзроўню менталітэту і культуры прадстаўлены і ў адных, і ў другіх, прычым у першых значна шырэй.

Нерасчлянёнасць міфалагічнага мыслення ілюструецца, напрыклад, старабеларускімі абазначэннямі паняцця 'задумлівасць'. Яно перадаецца дэрыватамі двух каранёў: *домышленьеся, мысленье, мысль, премышлеванье; задумеваньеся, задуменье* — і двума запазычаннямі — *рефлекцыя і медитация*. Абазначэнне самых розных інтэлектуальных паняццяў праз дэрываты двух-трох каранёў сведчыць аб былой сінкрэтычнасці, як і надзвычайная мнагазначнасць слова *мысль*, адным са значэнняў якога з'яўляецца менавіта 'задумлівасць': "*Будучы он в три мысли, прышла к нему Брагиня, которая его велми любила*".[1]

У сучаснай беларускай мове падчас перадачы дадзенага значэння больш шырока прадстаўлены корань *дум-*: *задума, задуменне, задуменнасць, одум, задумлівасць,*— удзельнічаюць таксама словы *развага, разважанне, сузіранне, паглыбленасць, засяроджанасць.* Са значэннем 'задумлівасць' звязана значэнне 'бяздум'е' праз агульную сему (элемент значэння) 'адцягненасць ад навакольнай рэчаіснасці', і гэта яшчэ раз сведчыць пра аслабленасць звыклых для нас супрацьпастаўленняў у міфалагічнай свядомасці нашых продкаў, калі складвалася семантычная сістэма мовы. У сучаснай беларускай мове значэнне 'бяздум'е' перадаецца лексемамі *бяздум'е, забыццё і бяздумнасць.* У старабеларускай мове значэнне, блізкае да сучаснага 'бяздум'е' перадаецца як 'бяспамятнасць', аднак не ў сэнсе страты свядомасці, а ў сэнсе адсутнасці мысліцельнай дзейнасці, "інтэлектуальнай паўзы": *запаметанье, запаметалость, запомянутие, запомненье.* Відаць, гэта тлумачыцца тым, што для носьбітаў старабеларускай мовы *паметь* у значна большай ступені азначала 'розум', г.зн. немагчымасць помніць, успамінаць расцэньвалася як адсутнасць мыслення. Гэты факт таксама звязаны з праяўленнем міфалагізму ў мысленні: памяць звязвае індывіда з калектыўным вопытам, мудрым і беззаганным, без якога любы працэс мыслення беспадстаўны.

Указаны вышэй спосаб трактоўкі памяці прама звязаны з тым, што для міфалагічнага спосабу асэнсавання рэчаіснасці характэрна неадрозненне звычайнага і надзвычайнага. Сапраўды, тыя ці іншыя светапоглядныя міфы былі прыняты шматлікімі папярэднімі пакаленнямі і перадаваліся наступным. Калектыўны практычны вопыт, які б ён ні быў, назапашваўся стагоддзямі, і таму разглядаўся як досыць надзейны. Гэты вопыт быў сабраны ў мудрасці продкаў, у традыцыі, пагэтаму асэнсаванне фактаў знешняга свету аказвалася справай веры, вера ж не падлягала праверцы і не патрабавала яе. Істотнасць сувязі індывіда з калектыўным вопытам продкаў праяўляецца і ў лексіка-семантычнай сістэме старабеларускай мовы. Для яго носьбітаў, як ужо гаварылася вышэй, *паметь* азначала не толькі здольнасць захоўваць інфармацыю, але і рацыянальнае засваенне рэчаіснасці: "... *при добром баченю и памети*". Такім чынам, пры міфалагічным спосабе мыслення аніякае асэнсаванне не было магчымае і прадуктыўнае без поўнай яго прыналежнасці да ўжо назапашаных традыцыйных уяўленняў аб свеце.

Для міфалогіі як сістэмы першабытнага светаўспрымання ўвогуле нехарактэрныя многія фундаментальныя для сучаснага спосабу засваення рэчаіснасці апазіцыі. Старажытны сінкрэтызм супрацьпастаўленых пазней значэнняў адлюстраваны, напрыклад, у старабеларускіх словах *впамятати, вспомнити* 'запомніць' і *запамятати, запомнети* 'забыць', якія ўзыходзяць да аднаго кораня. Міжмоўныя і ўнутрымоўныя амонімы, энантысемія, відаць, караняцца ў той жа міфалагічнай нерасчлянёнасці многіх паняційных сфер. Пры супастаўленні інтэлектуальнай лексікі сучаснай і старабеларускай моў высвятляецца, што ў XIV — XVII стст. значна шырэй выкарыстоўваліся дэрываты старажытных "ментальных" каранёў: словы, утвораныя ад іх, былі надзвычай мнагазначныя. Так, слова *мысль* абазначала і працэс асэнсавання, і стан задумлівасці (гл.вышэй), і ўласна думку ці намер як прадукт разважанняў: "*всимъ серцомъ твоимъ, и всею душею твоею и всею мыслью твоею*" (ст.-блр. *мысль* = 'розум').

Адсутнасць супрацьпастаўлення адзінкавага і множнага, характэрная для міфалагічнага мыслення, ілюструецца некаторымі абазначэннямі інтэлектуальных паняццяў у старабеларускай мове. Так, напрыклад, для абазначэння агульнай семантыкі 'фантазія' (г.зн. 'здольнасць ствараць у думках новыя вобразы') у мове XIV— XVII стст. перадаецца назоўнікам *мысленье* і запазычаннямі *домнение, имакгинация, фантазия*. Словы з гэтым значэннем ёсць і ў сучаснай беларускай мове: *выдумка, фантазія, уява, уяўленне.* Аднак абазначэнняў больш вузкай семантыкі 'схільнасць да фантазіравання, летуценнасць', у старабеларускай мове няма (пар. сучасн. блр. *летуценнасць, фантазёрства*). І калі агульнаму значэнню 'фантазія' супрацьпастаўляецца прыватная семантыка 'стан фантазіравання, летуценнасці', якая абазначаецца старабеларускімі словамі *мысленье* і *сонъ* (пар. сучасн. блр. *сон, трызненне, летуценне, фантазіраванне*), то значэнню 'стан задумлівасці' (ст.-блр. *домышленьеся, задумеваньеся, задуменье, медитация, мысленье* (!), *мысль* (!), *премышлеванье, рефлекцыя*) проста няма супрацьпастаўленага больш агульнага значэння, як, напрыклад, у сучаснай беларускай мове — *задумлівасць, засяроджанасць* (гэтыя словы могуць перадаваць і семантыку 'стан задумлівасці'), *сузіральнасць.*

Рысы міфалагічнага мыслення праяўляюцца і ў сцёртасці межаў паміж суб'ектам і аб'ектам, і гэтаму таксама ёсць ілюстрацыі ў лексіцы старабеларускай мовы. Старабеларускі прыметнік *ведомый* сумяшчае значэнні 'вядомы', якое захавалася і ў сучаснай мове, і 'той, хто ведае': "*в науце от Бога поданой добре ведомый, все Пісмо як старого, такъ и нового Тестаменту в памяти мелъ*".

Яшчэ адной ілюстрацыяй да выкладзенага вышэй агульнапрынятага тэзіса з'яўляецца "прарастанне " міфалагічнага ўспрымання прасторы ў сучасных філасофскіх канцэпцыях і ў развіцці семантыкі мовы. Усведамленне месца старажытных міфалагічных пластоў у менталітэце нашага сучасніка дазваляе прыйсці да істотных высноў (у тым ліку і лінгвістычных) у выніку непарыўнай звязанасці мыслення і мовы. Такая сувязь праяўляецца не толькі ў пэўным падабенстве дзвюх названых структур, але і ў тым, што прычынна-выніковыя лагічныя адносіны разгортваюцца ў сінхронна-сістэмныя моўныя адносіны. Выяўленне такіх моўных сістэмных характарыстык выконвае падвоеную функцыю: яны могуць служыць і пацвярджэннем нейкіх лагічных прычынна-выніковых сувязей, і тлумачэннем іх. Перш чым даследаваць пэўную семіятычную сістэму, напрыклад, міфалагічную карціну свету, мы заўсёды пэўным чынам яе разумеем. Значыць, папярэдняе разуменне з'яўляецца перадумовай усякага даследавання, аднак само даследаванне — гэта выхад з кола разумення шляхам тлумачэння даследуемых аб'ектаў. Прыкладам тлумачэння фрагмента міфалагічнага светаўспрымання, які гіпатэтычна і папярэдне нейкім чынам ужо разумеецца, з'яўляецца аналіз адлюстравання гэтага фрагмента ў сістэме лексічнай семантыкі. Тут будзе разгледжана праецыраванне некаторых міфалагічных уяўленняў у семантыку мовы, у прыватнасці, прасторавых — у сістэму значэнняў інтэлектуальных дзеясловаў.

Міфалагічныя ўяўленні аб прасторы значна адрозніваюцца ад сучасных. У архаічнай мадэлі свету прастора адушаўлёная, жыватворная і якасна разнародная. Яна не з'яўляецца ідэальнай, абстрактнай, пустой, не папярэднічае рэчам, якія яе запаўняюць, а наадварот, канстытуіруецца імі. Яна заўсёды запоўненая і заўсёды рэчыўная: па-за рэчамі яна не існуе. Увасабленнем адсутнасці прасторы (непрасторай) з'яўляецца хаос да пачатку тварэння. Складваецца апазіцыя: прастора ў космасе (у цэнтры) — адсутнасць прасторы ў хаосе (на перыферыі, а таксама ўнутры самога космасу — у рэшце хаатычнага пачатку, яшчэ не перапрацаванага касмічнымі сіламі). Гэта апазіцыя прызнаецца адной з цэнтральных у сучаснай філасофіі. "Нішто прыадкрываецца разам з існым і ў існым, у сваёй паўнаце выпадаючым з-пад увагі... Нішто само нішчыць... Нішчанне не выпадковая падзея, а тая адсылка да знікаючага існага ўвогуле, якая прыадкрывае гэта існае ў яго поўнай, раней прыхаванай дзіўнасці як нешта цалкам іншае ў процівагу Нішто... Нішто — не прадмет, ні ўвогуле што-небудзь існае. Яно не сустракаецца ні само па сабе, ні поруч з існым накшталт дадатка да яго. Нішто ёсць умова магчымасці раскрыцця існага як яно ёсць для чалавечага быцця" (Хайдэгер).

Адасобленасць прасторы ад не-прасторы — найбольш істотная ўласцівасць міфалагічнай мадэлі свету. Але прастора ўзнікае не толькі і не столькі праз адасабленне яе ад хаосу, г.зн. таго пункта, з якога адбываецца ці калісьці адбылося гэтае разгортванне і праз які як быццам праходзіць вектар развіцця. Да цэнтра — найвышэйшай (часта персаніфікаванай) сакральнай каштоўнасці — вядзе шлях, г.зн. тое, што звязвае самую аддаленую перыферыю і ўсе аб'екты, якія запаўняюць прастору, з вышэйшай сакральнай каштоўнасцю. Рух па прасторы да цэнтра пацвярджае рэчаіснасць, сапраўднасць самой прасторы, "прабягаемай" гэтым шляхам, і, галоўнае, даступнасць кожнаму зведаць прастору, засвоіць яе, дасягнуць яе запаветных каштоўнасцей. "У быцці існага ажыццяўляе сваё нішчанне Нішто... Нішто не зацягвае ў сябе, а адпаведна сваёй сутнасці адсылае ад сябе да існага. Толькі таму, што ў аснове чалавечага быцця прыадкрываецца Нішто, адчуждаючая дзіўнасць існага здольна захапіць нас у поўнай ступені... Без зыходнай адкрытасці Нішто няма ніякай самасці і волі... Чалавечае быццё можа ўступаць у адносіны з існым толькі таму, што наближана да Нішто. Выхад за межы існага адбываецца ў самой аснове нашага быцця" (Хайдэгер). Напрыклад, у казках герой адпраўляецца вонкі, на перыферыю прасторы, а часта і ў той не-прасторавы хаос, дзе вырашаецца лёс і героя, і самога хаосу, паколькі перамога азначае асваенне прасторы, далучэнне яе да ўжо касмізіраванай і арганізаванай раней.

Архаічныя ўяўленні аб прасторы, у прыватнасці аб ролі шляху ў яго асваенні, надоўга перажылі міфапаэтычную эпоху, напрыклад, яны захоўваюцца як элемент семантыкі мовы. Ідэя асваення першапачатковага хаосу ляжыць у аснове распаўсюджанага ў самых розных мовах (на розных этапах іх развіцця) семантычнага пераносу 'рухацца, асвойваць прастору' — 'разумець, даведвацца'. Па названых вышэй прычынах семантычныя палі 'рух' і 'інтэлектуальная дзейнасць' досыць блізкія ў сістэме мовы: часта працэсы зведвання, разумення, творчасці асацыіруюцца з непасрэдным рухам, а развіццё думкі — з перамяшчэннем у прасторы, асваеннем яе. І ў беларускай мове (як у сучаснай, так і ў старабеларускай) шэраг дзеясловаў, у якіх першапачатковае значэнне руху развілося ў інтэлектуальнае. Што датычыць параўнання сучаснай і старабеларускай моў, то тут у семантычным развіцці 'рухацца' — 'разумець, даведвацца' многа агульных рыс і канкрэтных слоў, якія ўжываліся на працягу абодвух перыядаў, напрыклад ст.-блр. *дойти*, як і сучасн. *дайсці* мела значэнне 'зразумець'. Ёсць і пэўныя адрозненні, напрыклад ст.-блр. *выйти* мела значэнне 'стаць вядомым', якое не захавалася зараз: "*оттоль на весь светъ вышло...*" . Аднак такія адрозненні ў развіцці канкрэтных слоў толькі пацвярджаюць агульную тэндэнцыю.

Вышэй ужо ўпаміналася, што "сістэмнасць і аперацыйны характар мадэлі свету (як архаічнай, так і сучаснай — **А.Р.**) даюць магчымасць на сінхронным узроўні рашыць праблему тоеснасці (адрозненне інварыянтных і варыянтных адносін), а на дыяхранічным узроўні выявіць залежнасці паміж элементамі сістэмы і іх патэнцыямі гістарычнага развіцця" (Міфы народаў свету), г.зн. такім чынам устанаўліваецца сувязь лагічнага і гістарычнага. Тое, што ў сінхраніі прадстаўлена як сістэма (напрыклад, значэнні мнагазначнага слова, як *дайсці* ці *паглыбіцца*), у дыяхраніі з'яўляецца паслядоўнасцю развіцця, гісторыяй прыярытэтаў. З другога боку, гістарычны падыход (напрыклад, выяўленне асаблівасцей архаічнага менталітэту) дазваляе сістэмна падысці да вывучэння фактаў (у прыватнасці, моўных) на сучасным этапе.

---

[1] Усе прыведзеныя старабеларускія цытаты ўзяты з Гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Мн., 1982, а таксама картатэкі названага слоўніка. Правапіс урыўкаў набліжаны да сучаснага.




Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# ХАРЫС, ЭРАС, АГАПЭ...

## Апавяданне



Ніхто не ведае, як выбірае жанчына.

Гіпархія глядзіць на чырвоны, ненатуральна вялікі дыск сонца, які схіляецца да мора пад цяжарам сваёй спякотнай стомы.

Яна ўсё яшчэ прыгожая — цёмнавокая, з незвычайна белай далікатнай скурай, якую не змаглі абветрыць тысячы вятроў, жанчына-філосаф...

(Як яна ненавідзела сваю жаноцкасць! Колькі паблажлівасці ў гэтым прыдомку да звычайнага "паэт", "вучоны", "палітык"...)

Цёмныя кіпарысы на фоне вечаровага неба — як увасоблены прынцып аўтаркіі — самадастатковасці асобы. Гіпархія таксама стараецца не варушыцца, быццам баіцца пабудзіць таго, чыя галава на яе каленях.

Ён часта засынаў на яе каленях... Але гэта — у апошні раз...

Кратэт Фіванскі, знакаміты філосаф-кінік... (О, блаславёны той час, калі філосафы — знакамітыя!) Некалі самы багаты чалавек у горадзе, ён раздаў сваё багацце, скінуў яго з сябе, як ланцугі — няхай залатыя, яны не больш, чым сімвал рабства...

Беззаганны мудрэц, той, хто адчыняе ўсе Дзверы — ён уваходзіў у кожную сям'ю, у кожны дом — халупу ці палац, дзе патрэбнае было слова міру і мудрасці...

Непахісны кінік, які спаў на камянях і выкінуў нават гліняны кубак, пабачыўшы, як хлопчык зачэрпвае з ручая даланёй...

Але адна слабасць у яго была... Гіпархія ведае гэта пэўна. Бо слабасцю Кратэта Фіванскага была яна, беласкурая Гіпархія...

На цёмны, бугрысты, пакрыты зморшчынамі лоб нябожчыка садзіцца бліскучая зялёная муха. Яна паўзе да вялікага носа ў старэчых фіялетавых пражылках. Гіпархія адганяе бессаромную вястунку смерці...

Так, ён ніколі не быў прыгажуном. Калі папраўдзе — ён быў проста пачварным гарбатым і кульгавым старэчай у брудных лахманах... А яна, непераможная ў сваёй юнай прыгажосці, патрабавала:

— Вазьмі мяне! Я буду тваёй жонкай, Кратэт! Або пайду з жыцця!

За спінай лямантавалі бацькі. Брат Метрокл, выпеставаны завіты баранчыкам хлопчык, паглядваў збоку з грэблівай цікаўнасцю (каб тады пабачыў ён сябе сённяшняга — аброслага, схуднелага і з сапраўднай філасофскай адчужанасцю на твары). У дзвярах тоўпіліся грамадзяне горада, Кратэтавы вучні, Кратэтавы праціўнікі...

Ён, Кратэт, і сам спрабаваў яе адгаварыць... Але яна бачыла яго вочы!

Нарэшце, амаль зняможаны барацьбою з тым, з чым змагацца не хацеў, ён сарваў з сябе лахманы:

— Глядзі, Гіпархія! Вось твой будучы муж і ўсё, што ён мае!

І тады, пад дзесяткамі цікаўных позіркаў, яна скінула, стаптала сабе пад ногі тонкі, надушаны хітон... І як апошні довад — на змятую тканіну ўпалі яе бранзалеты і завушніцы.

Яна выбрала.

Чароўная Леда, бязлітасна змінаючы трыснёг, які быў калісьці чароўнай німфай Сірынгай, збягае да ззяючага лебедзя... Еўропа лашчыць тонкай смуглай рукою магутную спіну белага быка... Даная ловіць далонькамі трапяткія струмені залатога дажджу... І ўсе яны выбіраюць аднаго таго самага бога... Усе жанчыны выбіраюць аднаго — у многіх, многіх незлічоных абліччах...

Чырвоны дыск дакранаецца мяжы, падзяляючай мора і неба. І кожная хваля нясе да берага частачку цёплай барвы — быццам асыпаюцца ружы і гайдаюцца-плывуць пялёсткі.

Гадзіну назад Гіпархія крадма паклала ў рот памерламу абол — неабходную плату Харону... Бываюць моманты, калі забабоны недасведчанага натоўпу не здаюцца такімі ўжо бязглуздымі... Гіпархія стоена ўздыхае — ад гэтага ўздых атрымліваецца сутаргавы, падобны на плач. Нельга... Вунь яны, непахісныя кінікі, верныя вучні мудраца Кратэта. Кожны — самадастатковы, кожны пагарджае матэрыяльнымі аздобамі жыцця, а гэтаксама людзьмі, іх мітуслівымі справамі і непатрэбнымі ведамі...

Аскесіс... Апайдзеўсія... Аўтарксія...

Колькі папрокаў давялося выслухаць настаўніку! Саступіў пажадлівай плоці... Адышоў аб бясстраснасці сапраўдных мудрацоў... І ўвогуле, як казаў Феафраст, нельга аднолькава добра служыць жанчыне і кнізе... Ці не з-за гэтых папрокаў так стараўся Кратэт давесці ўсяму свету, што яна, Гіпархія — не перашкода мудрасці, але змесцішча яе... "Сасуд" мудрасці... Ха!

Ён павёў яе з бацькоўскага дому, і больш ніколі не ляжала яна на мяккіх ложках, не апранала прыстойнага адзення... Ён спаў з ёю навідавоку — на скрыжаванні дарог, у кароткім паўднёвым ценю платана, на роўным, як упэўненасць, беразе... Ён саромеўся сваёй слабасці, ён мучыў яе... І пакутаваў з ёю... О, гэтыя прагныя насмешлівыя вочы... І рогат...

Гіпархія адчула, як шчокі ізноў запалалі ад даўняга сораму. Ён, Кратэт, прыпадабняўся сабаку і з яе зрабіў сучку... Менавіта так называлі яе румяныя фіванскія матроны...

А ён пакутаваў.

На імператарскіх пірах і ў сцюдзёных пячорах яна адчувала яго пякучую, безнадзейную рэўнасць, загнаную ў самыя глыбіні свядомасці і ад таго невынішчальную. Ён аддаваў яе, сваю Гіпархію, чужым позіркам і меркаванням, ён не абмяжоўваў яе волю ні ў чым — яна магла б пайсці з любым... І ён не мог не пакутаваць ад усведамлення такой магчымасці...

Па небакраю працягнуліся туманістыя жоўта-ружовыя палосы, пяшчотныя і радасныя. Такія сляды мог бы пакінуць Сфінкс на залатым пяску пустыні.

— Ты не павінна жаліцца па бескарысным чалавечым праху, Гіпархія!

А, Зянон... Улюбёны вучань... Ён ужо дакладна не паддасца жаданням плоці...

Гіпархія не адказвае, і Зянон, захутаны ў выцвілыя лахманы — пра такія Сакрат казаў, што скрозь іх бачна славалюбства ўладальніка, — адыходзіць у вечар, у вечнасць, у сябе...

Цела Кратэта цяжкое і халоднае, нібы скамянелае. Пэўна, мыслячы камень быў бы ідэальным філосафам... Самадастатковы, незалежны...

Гэтыя доўгія ночы на халодных камянях! Побач храпе гарбаты кульгавы стары, ад якога смярдзіць сабачарняй...

Лухта! Якая лухта! Быць прыкладам — жыць дзеля таго, каб быць прыкладам — ператварыцца ў жывы прыклад — ... "Сучка!"

Ненавіджу...

Гіпархія рашуча апускае галаву нябожчыка на пясок і ўстае. Ногі занямелі... Што цяпер? Шэрыя балаханы філосафаў зліваюцца з вечаровым прыцемкам. Мора дыхае прахалодай і спакусай далёкіх вандровак... Можа быць, там, дзе патанула сонца, сапраўды ёсць прыдуманы Кратэтам востраў Пера — "Кайстра", на якім жывуць адны філо-

---

Сяржук БЛІЗНА

# ПРАКТЫКУМ САМАГУБЦЫ

Дарагі сябра! Надыходзіць хвалюючы момант уцёкаў з гэтага свету. Залішне не бянтэжся і не мітусіся — адсюль ужо збегла цэлая плойма мамэнта-марыстаў. Смялей за імі, і ты атрымаеш узнагароду; прынамсі кожную раніцу не трэба будзе ўставаць і валачыцца абы-куды...

У тваім стане лепш пагадзіцца са словамі старога індзейца: "Чым гэты дзень дрэнны для смерці?"

Думкі, якія чаго-небудзь вартыя, рэдка прыходзяць зьнянацку. Паспрабуй уявіць сітуацыю: ты, такі вясёлы хлапец, пераходзіш вуліцу, бачыш, што здалёк набліжаецца аўтамабіль, крыху затрымліваешся і пачынаеш углядацца ў ягоны бампер ці ў лабавое шкло. І раптам цябе наткняе: "Пэўна ж ніхто не чакае, што я вось так вазьму і скокну пад калёсы: ішоў — не дайшоў, а якая неспадзянка будзе шафёру..." Калі ты належна ацэніш гэткі жарт і ў стане сатварыць нешта падобнае, то неабходна хутчэй адкласці пісаніну.

Аднак большасці тваіх калег прыходзілася спазнаць, як паступова, крок за крокам, імі апаноўвала манія самагубства. Яна падкрадаецца непрыкметна, паволі рыхтуе глебу ў свядомасці і ў адзін цудоўны момант заганяе ў кут. Тады знойдзецца і неспатоленая прага ўцехі, якая падкажа, што ты не вельмі патрэбны на гэтым свеце, тым больш што і ён цябе істотна стаміў.

Перад тым як выбраць прыдатны для палёту паверх (а калі не хочаш пабыць птушкай, то перад тым, як дакладна разлічыць даўжыню вяроўкі), не лішне усвядоміць, што жаданне адвязацца ад жыцця, нягледзячы на ўсю ягоную прывабнасць і моц, застаецца толькі жаданнем. Прыгадай сабе, што і раней у цябе былі жаданні, але далёка не ўсе ажыццяўляліся адразу, а шмат з іх наогул засталіся некранутымі. Колькі праходзіла часу, калі ты з марай аб ежы і адпачынку іншы раз вяртаўся дадому? Ты ж трываў і тупаў, а не валіўся ля гасцінца і не піў з лужыны. А як даводзілася чакаць перапынку заняткаў, каб дабегчы да прыбіральні?.. Было б даволі дзіўна, калі б усе нашы жаданні адразу задавальняліся.

Варта памятаць, што пры шматлікіх хваробах душы і цела жаданні могуць быць падманлівымі і згубнымі. Хворы губляе кантроль над уласнай воляй, аддаецца памылковым пачуццям. У такім стане ён можа ўвесці ў зман і сваю радню і дактароў, а пасля наогул нарабіць дзівосных спраў. Калі ты кепска сябе адчуваеш, цябе турбуе прыгнечанасць ці раптоўная зласлівасць, панылыя думкі аб адным і тым жа, дрэнны сон і да т.п. — звярніся да доктара-псіхатэрапеўта. Для вырашэння тваіх праблем неабходны моцныя нервы.

Я з табой цалкам згодны — толькі дурань пойдзе да доктара. Але ўсё ж такі запомні, што жаданні могуць падмануць. І частку часу, які ў цябе застаўся, скарыстай не толькі на выбар і авалоданне методыкай самагубства, але і на прыняцце (хіба апошняга ў тваім жыцці) рашэння: ці сапраўды гэта табе патрэбна? Усё тваё нутро ўпэўнена, што гэта адзінае выйсце, аднак у якім недарэчным становішчы ты можаш апынуцца, калі знясіліш сябе без асаблівай патрэбы, а толькі з-за часовага, нават няхай і вельмі моцнага душэўнага дыскамфорту.

"Я зрабіў гэта з-за ўласнага глупства", — распаўсюджаны варыянт апраўдання пачынальнікаў-суіцыданераў, а тыя, каму пашанцавала, выдумляюць байкі пану Богу накшталт цяжкага жыцця. Ёсць і другі варыянт тлумачэння, на ўсялякі выпадак запомні: "У той момант я не хацеў жыць..."

Калі не хочаш быць ашуканым, паспрабуй разабрацца ва ўласных пачуццях. Каб не памыліцца, не спяшайся, у рэшце рэшт паміраеш не кожны дзень. На тое, каб абмазгаваць усё, што з табой адбываецца, патрэбны час. Не заставайся ў хаце, ідзі, куды захочаш. Размова з сябрам альбо гадзінадругая, праведзеныя ў кампаніі, павінны зменшыць унутраную напругу — не варта адмаўляцца ад такой магчымасці. Але пазбегнуць зносін з самім сабой верагодна не атрымаецца. Лепшае месца для размовы з гэтым субяседнікам — поле або лес. Ідзі доўга, без накірунку і прыпынкаў. Лепш бадзяцца ў дождж (не хавайся ад яго), і ў мароз не нацягвай усе апраткі — калі трохі змерзнеш, то будзеш больш разважлівы. Хоць цяпер не шкадуй сябе і не палохайся схапіць прастуду.

Не спяшайся вяртацца дадому, пабудзь сярод натоўпу, паглядзі кіно (напаследак ужо выбяры добры фільм). Можаш параіцца па тэлефоне даверу, дзе табе прапануюць слушную параду, гэтыя хлопцы любяць пагутарыць.

А вось дапамогі ў гарэлцы альбо яшчэ ў нейкай халеры лепш не шукай: сваіх праблем ты не вырашыш, толькі змарнуеш грошы, якія спатрэбяцца на пахаванне. Тым больш, што табе неабходна ясная галава, каб выбраць лепшы метад забойства, а калі вочы глядзяць у розныя бакі, такую далікатную справу можна і не зрабіць.

Выдумаць сабе смерць даволі нялёгка. Твае папярэднікі часам дэманстравалі ў гэтым незвычайную вынаходлівасць. Узяць хаця б прыхільнікаў камбінаваных самагубстваў: спачатку ён глыне кіпу пігулак, хуценька разане вены, а пасля лезе ў пятлю, дзе засынае хутчэй, чым задушыцца.

Аднак шмат было сярод іх і такіх, якія паміралі неяк нудотна, як бы ў "рабочым парадку", складвалася ўражанне, што яны не з жыццём развітваюцца, а вядро бульбы высыпаюць.

Ці варта працаваць на сухую статыстыку? Напішуць, што ў мінулым годзе з вежы Эйфеля скочыла 3, а з Бруклінскага моста толькі 2. Заўваж, ніхто не напіша, колькі разоў ты перакуліўся ў паветры, што крычаў, як выглядала зямля, якая станавілася ўсё бліжэй і бліжэй, як ты адчуў яе ўсім сваім целам... Цябе толькі занатуюць у графу: Эйфелева вежа — скокі — № 3.

Нельга быць банальным, спрабуй унесці разнастайнасць у кожную справу. Не забывайся, у які час ты паміраеш, шырэй карыстайся навуковымі і тэхнічнымі дасягненнямі. Нават сама твая смерць можа быць карысная для навукі. Тут ёсць над чым папрацаваць. Шкада толькі, што за самыя лепшыя самагубствы не атрымліваюць прызоў.

Хіба ніхто не возьмецца пералічыць усе спосабы самагубства, адных хімічных рэчываў процьма. Электрычнасць любяць неяк менш, хіба таму, што ад яе шмат крыку. Безумоўна, западаюць у памяць своеасаблівыя, каляровыя суіцыды. Напрыклад, тапельства ў фарбе (уяві, дастаюць з бака ўсяго зялёнага, не зразумець, што за алігатар такі).

Калі знясілены, каб жыць, не віхляй перад вачыма смерці, не нэндзі як плюгавец, пагарджай сабою за слабасць. Не ведаеш, як гэта лепш зрабіць? Існуюць годныя прыклады.

Уяві моц волі воіна, які трапіў у палон і каб не выдаць пад катаваннем таямніцу, спыніў сабе дыханне. Ён прысеў, сціснуў рукамі грудную клетку і перастаў дыхаць. Ворагу ён пакінуў толькі сваё цела.

Або паўтары, калі ты не сапраўдны дыстрофік, смерць першага марафонца. Ты здолееш прабегчы некалькі дзесяткаў кіламетраў і хаця весткі аб перамозе не прынясеш, але прынамсі так памерці — не сорам. Трэба улічваць і тое, што кеды не вельмі складанае прыстасаванне для самагубства.

Прыгадай, як паміралі дзеля навукі. Апантаныя навукоўцы выпрабавалі на сабе уздзеянне паразітаў, таксічных рэчываў, неверагодных тэхнічных вынаходніцтваў. А прафесар Вэбер змог быць настолькі арыгінальным, што на лекцыі намаганнем волі прымусіў сваё сэрца біцца ўсё радзей, а пасля і наогул спыніў яго працу (праўда, пазней сэрца зноў завялося).

Канечне, раней з годнай смерцю было крыху лягчэй; калі стаміла існаванне — улезеш у нейкую "бойку" і ўсе праблемы знікнуць. Але даводзіцца лічыцца з сучаснымі рэаліямі і перад смерцю крыху папрацаваць галавой.

Неабходна дакладна ўявіць сабе мэту самагубства. Напрыклад, калі ты хочаш камусьці адпомсціць ці прымусіць шкадаваць, будзе не вельмі разумна разбіваць сабе з-за гэтага галаву. Можа твой крыўдзіцель пасля і раскаецца, будзе "кусаць локці", але ты аб гэтым нават і не даведаешся.

У такой сітуацыі варты больш сціплы метад. Вазьмі некалькі пакункаў пігулак. Тры пігулкі адкладзі, а дзве жмені выкінь ва унітаз (ваду спусціць два разы!). Пасля падыдзі да ложка, кінь побач пустыя пакункі, тры пігулкі, якія пакінуў, праглыні і запі дзвюма шклянкамі вады. Проста ў адзенні кладзіся на ложак. Калі выпіў не снатворнае — не заснеш і можаш усё сапсаваць. "Хуткая" даставіць цябе ў шпіталь, дзе пасля і даведаешся аб выкліканым эфекце. Калі ж імітацыя не дапамагла, то самагубства траціць усялякі сэнс.

Толькі асабліва падобнымі маніпуляцыямі не захапляйся, бо пры злоўжыванні можа атрымацца толькі адмоўны вынік. Шчыра кажучы, не ведаю, з якім настроем сустракаў персанал шпіталя 26-гадовага англічаніна пасля 82-й спробы самагубства, але пэўна

сафы, расце часнок і смоквы і ніхто ні з кім не варагуе.

Гіпархія адкідвае за спіну распушчаныя з прычыны жалобы валасы. Цёмны вадаспад, у якім патанаюць... яна ўсё яшчэ прыгожая! І яшчэ можа мець дзяцей...

Жанчына захінае твар рукамі. Цяпер яна вольная новай воляй. Некалі яе збаўцай ад звычайнай жаночай долі быў Кратэт — цяпер яна вольная ад Кратэта...

Што далей?

Гіпархія аглядаецца на вартую жалю астыглую плошчу...

Як ён глядзеў на яе тады, калі яна выбірала...

Водсвет гэтага пачуцця быў заўсёды ў яго паглядзе...

Пачуцця... Якога?

Колькі назваў прыдумана для абазначэння кахання ў залежнасці ад пачуццёвага адцення: эрас — каханне-страсць, потас — жаданне, харыс — павага, агапэ — адданасць, філія эрэтыке — сяброўства...

А як называецца каханне — самападман? Каханне-прыклад, калі не кахаеш, а ствараеш узор кахання? Так гэта было?

Жанчына ўпала на калені. Як балюча... Якія балючыя словы — "ніколі", "назаўсёды"...

Выратуй мяне, мая філасофія... Яго філасофія...

Аўтарксія... Апайдзеўсія... Аскесіс...

Гіпархія паўтарае гэтыя словы, як малітву. Але паступова яны змяняюцца іншымі, ціхімі, таемнымі: харыс... Эрас... Агапэ...

Зоры, прыгожыя і буйныя, успыхваюць адна за адной на цёмна-сінім небе Элады. У міртавых гайках падкрэслівае цішыню цвыркатанне цыкадаў. На скрыжаванні дарог скіроўвае сваё люстэрка Геката, багіня ночы, чакаючы належных (і непазбежных, як чалавечае зло і няўдзячнасць) ахвярапрынашэнняў. Пахмуры Харон збірае ў бяздонны скураны вацок аболы... Бедныя манеты пазвоньваюць глуха і жаласна, нібы таксама паміраюць...

На блаславёным беразе цёплага мора, непадалёк ад слаўнага горада філосафаў, над целам старога Кратэта-кініка галосіць знакамітая Гіпархія.

Галосіць адчайна, па-жаноцку, можа быць, упершыню ў жыцці. Галосіць, сціскаючы рукамі пахаладзелыя далоні таго, каго яна выбрала...



## Уладзімір АРЛОЎ

# ГРАФІЦІ




На экзаменах па лаціне мы, студэнты гістарычнага факультэта, павінны былі, як "Ойча нашъ" ведаць, прынамсі, сотню афарызмаў і крылатых выразаў. Усвядомлены (або — не) пратэст супраць забранзавелай антычнай мудрасці набываў шматстайныя формы — ад афармлення выкладчыку-лаціністу гадавой падпіскі на часопіс "Свиноводство" да рызыкоўных заказаў у бюро рытуальных паслугаў.

Што да мяне, дык аднаго разу ў хвіліны беспрасветнага зубравання высакалобых грэкаў і рымлянаў я нечакана пачаў іх рэдагаваць. Як памятаецца, першаю ахвяраю стаўся Авідзій, які хацеў, каб смерць заспела яго ў час працы — я ж прыпісаў яму ахвоту сустрэць кашчавую ў жаночых абдымках. Гульня часам нараджала новыя сэнсы, змушала лацініста падазрона прыслухоўвацца, а гульца натхніла на блюзнерства.

Знаёмы выпускнік alma mater пісаў якраз тады дыпломную работу пра графіці адной з нашых старажытных бажніцаў. Уцёршыся яму ў давер, я (даруй, Божа, і ўсе святыя ўгоднікі) цішком аздобіў храмавы тынк сваімі крамзолямі (частка якіх паспяхова трапіла на старонкі дыплома), пагатоў, храм колькі стагоддзяў належаў езуітам і лаціна чулася ў ім утульна.

З усёй адказнасцю заяўляю, што пазней, умацаваўшыся ў веры і пранікшыся піетэтам да антычных любамудраў, гэткімі рэчамі ўжо не займаўся. Але ў маім недагледжаным архіве засталіся малюнкі тых хуліганскіх інтэрпаляцый, што недзе аздабляюць сярэднявечны мур, бянтэжачы руплівых даследчыкаў нашае старасветчыны. Кіруючыся шляхетным імкненнем дапамагчы калегам, я і наважыўся на першую іх публікацыю.

***Злева ўгору і ўніз:***

Аплакваю жывых.

Праз церні — насустрач смерці.

Мёртвыя кусаюцца.

Перамагчы або жыць.

Не чапай напісанага мною.

25.VIII.1953. Полацк —

Я быў.

Vivos plango

Per, aspera ad mortem

Mortui mordent

Aut vincere aut vivere

Noli tangere scripta mea

25.VIII.1953. Polocia —

Fui

---

некаторыя мелі жаданне яго чымсьці стукнуць.

Таксама трэба ведаць, што адыход ад жыцця не абавязкова ажыццяўляецца з дапамогай самагубства. Узор разумнага адыходу — пастрыг у манахі. Тады ўсё далейшае тваё існаванне будзе належыць не табе, а людзям і Богу.

Добра, дапусцім, ты ўжо выбраў разумны спосаб самагубства і жыццё так абрыдла, што не ўспрымаюцца ніякія аргументы.

Тады трэба канчаткова праверыць сябе на прагу смерці. Вазьмі востры нож ці брытву і парэж па чарзе ўсе пальцы (лепш на тыльнай паверхні кісцей). Галоўная ўмова — каб з кожнай ранкі ішла кроў. Калі яна выканана, можаш прыкласці да раны хустку ці ручнік. Не супакоіўся? — засунь іголку пад пазногаць або патрымай руку над полымем так доўга, як здолееш вытрымаць. Усё гэта не просты здзек над сабою. Падобныя працэдуры дапамогуць канчаткова разабрацца ў сабе і нават могуць штосьці змяніць у тваіх намерах.

## Укладка

Некаторыя знаўцы выказваліся аб магчымай карысці працяглага (паэтапнага) самагубства, пры якім забіваць сябе даводзіцца часткамі. Напрыклад, "адарваў" палец — і глядзіш, як ты без яго маешся, пасля думаеш, ці варта брацца за другі. Безумоўна, такое самагубства дае час на роздум, але па сваім тэхналагічным узроўні яно сапраўды не для пачынальнікаў.

Існуе іншы варыянт паэтапнага самагубства — цыклічнае, якім лепей карыстацца, калі неабходна выказаць палітычныя меркаванні. Для параўнання прыведзены алгарытмы двух самагубстваў — цыклічнага і звычайнага.

Звычайнае

1. падышоў да помніка Леніну
2. абліў сябе бензінам
3. запаліў сернікі
4. гарыш і бегаеш
5. проста згарэў — падгарэў
6. шпіталь (абязбольванне, уліванне вадкасці і крыві, пачынаецца гнаенне, просіш, каб выратавалі...)
7. паміраеш

Цыклічнае

1. падышоў да помніка Леніну
2. абліў бензінам чаравік
3. запаліў сернікі
4. чаравік гарыць, ты бегаеш
5. чаравік згарэў
6. шпіталь (дзеянні гл. улева)
7. выпіска і вяртанне да пункта 1.

Такім чынам, дзякуючы цыклічнасці можна некалькі разоў прадэманстраваць знявагу Ільічу. Але самагубства па палітычных матывах мае няшмат прыхільнікаў, тым больш, што нястомныя барацьбіты часцей карыстаюцца галадоўкай, хаця б ля таго ж помніка.

* * *

Спадзяюся, што ты паспяхова прайшоў усе выпрабаванні і няўхільна рухаешся да мэты. Тады не забудзься ўявіць, як будзеш выглядаць пасля смерці. Бо нікому асабліва нецікава даставаць тваё дохлае цела з пятлі або збіраць па асфальце кавалкі мазгоў. Не жадаеш больш думаць пра сябе — падумай аб іншых, паспрабуй сваёй канчынай як мага менш турбаваць людзей. У любым выпадку тваё цела або тое, што ад яго застанецца, будуць вывучаць судовыя медыкі. Ім давядзецца даставаць твае смярдзючыя вантробы, рэзаць іх кавалкамі, разглядаць пад мікраскопам, каб даведацца, які орган больш пацярпеў ад шкоднага выбрыку. Можаш быць задаволены, што ты не будзеш сведкам гэтага відовішча.

Патурбуйся аб эстэтычным выглядзе мерапрыемства. Перад смерцю добра памыйся, апрані чыстую бялізну. Лепш паміраць нашча, калі страўнік пусты, інакш можаш выглядаць непрыстойна.

І яшчэ адна парада, не варта адыходзіць з гэтага свету вечарам або ўначы. У цёмны час сутак нічога добрага звычайна не адбываецца. Сябе можна забіць толькі з-за таго, што хочацца спаць. З сапраўдным жаданнем смерці лепш пачакаць да раніцы.

Калі ты ўсё вырашыў канчаткова, уяві, дзе і ў якім становішчы знойдуць цела. Пажадана, каб яго знайшлі адразу, а не праз некалькі дзён. Мала прывабнага ў тым, як па табе будуць поўзаць мухі і здзіўляцца, чаму гэта ты вылупіў вочы і не міргаеш.

Усё падрыхтавана — цудоўна! Тады застаецца толькі дачакацца золку і з першымі промнямі, пад ціўканне ранішніх птушак — трум сябе!

Напаследак падумай пра бацькоў... Дрэнна або не зусім яны ўзгадавалі цябе, а зараз замест падтрымкі і спакою ў старасці атрымаюць гора і сорам. Уяві, як яны будуць сябе адчуваць на тваім пахаванні, а пасля да сканчэння дзён за іх плячыма будуць шушукацца і тыкаць пальцам: "Паглядзі — гэта іх сынок знясіліўся..."

Калі ты пасля такіх думак заблытаўся ў тым, хто за каго адказны, не хвалюйся — любыя маральныя перашкоды заўсёды няцяжка пераадолець. Напрыклад, наўрад ці хто зможа аспрэчваць, што ў цябе не было жадання бадзяцца па гэтым свеце, ты, прынамсі, згоды на гэта не даваў.

Ты можаш быць незадаволены не толькі месцам (геаграфічная незадаволенасць), але і часам нараджэння (хранаметрычная). А адзін дзядзька пайшоў яшчэ далей, ён меў прэтэнзіі да сваёй біялагічнай формы, бо з дзяцінства марыў стаць пінгвінам.

Смялей выказвай крыўду на бацькоў, на ўласны лёс, на сваю краіну. У цябе ёсць усе падставы быць незадаволеным гістарычным працэсам. Чаму гэта Беларусь не засталася пад французскай акупацыяй з 1812 года?

На такі лёс сапраўды варта крыўдаваць, але няўжо табе так шкада сябе, што ты не можаш нават крыху стрымацца, каб не рабіць няшчаснымі іншых. Смерць жа — такая рэч, якая нікуды ад цябе не ўцячэ. Цяпер ты ў стане з чыстым сумленнем адкласці яе гадоў так на дзесяць, лічы сябе на гэты тэрмін умоўна мёртвым. Вырашы, што памёр сёння, а далей ты проста будзеш назіраць чужымі вачыма за тым, што з табой адбывалася, калі б застаўся жыць.

Хутчэй за ўсё ў цябе з'явяцца новыя магчымасці. Чалавеку, які "памёр", няма чаго баяцца, ты здолееш зрабіць шмат з таго, аб чым нават і не здагадваўся (прынамсі, зможаш заехаць нейкаму нягодніку лішні раз па пысе). Людзям дапамога з твайго боку можа быць вельмі патрэбна, бо рэшта жыцця ўжо не твая асабістая, і ў кожны момант ты можаш быць здатны на выключную справу.

За гады ўмоўнага жыцця магчымасць прыстойна пакінуць свет з'явіцца не раз, толькі не цурайся яе.

"А бывает и еще хуже, только что человек соберётся съездить в Кисловодск, — тут иностранец прищурился на Берлиоза, — пустяковое, казалось бы, дело, но и этого совершить не может, потому что неизвестно почему вдруг возьмёт — поскользнется и попадёт под трамвай!" (М.Булгакаў. "Майстар і Маргарыта").

Уяўляць сябе гаспадаром уласнай смерці — калі ў гэтым і ёсць задавальненне, то, мабыць, непрацяглае. Можна доўга смакаваць думку аб смерці, рыхтавацца да яе, але такія разважанні ўжо з'яўляюцца спосабам жыцця: "... філасофстваваць — гэта... рыхтаваць сябе да смерці" (Цыцэрон).

Калі ты не рашучы, працягваеш сумнявацца, паспрабуй зрабіць істотныя змены ў сваім жыцці ("пераварот" або хоць "паварот"): цалкам змяні сабе асяроддзе, перайдзі на іншую працу, па-сапраўднаму займіся вучобай, пераедзь у другі горад ці вёску. Не можа быць, каб для цябе не знайшлося справы. Не губляй час!

* * *

Даруй, Божа, падумаць табе, паважаны чытач, што тут вядзецца нейкая агітацыя супраць самагубства. Аўтар гэтых радкоў хіба не настолькі ашалеў, каб даказваць "абсурднасць" самагубства або выказваць прэтэнзіі да Ганны Карэнінай. Нават наўрад ці хто возьмецца аспрэчваць дзеянні Юзіка Кегейльмана, хаця пасля ягонага ўчынку застаецца нейкая недаказанасць. Нявеста публічна назвала яго непапраўным смердзюком, і ён не вытрымаў...

— Юзік, а калі гэта быў нявінны сямейны жарт?






Алена ТАРАСЕВІЧ



# “МНЕ СОНЦА АСЛЯПІЛА ВОЧЫ...”

Што мы бачым? Што я бачу? Што мы ведаем аб свеце, у якім жывём, і як гэтае веданне суадносіцца з нашым бачаннем? Мабыць, наогул, наш свет — гэта толькі тое, што мы бачым у гэтым свеце? Свет нават агульнасцю кораня звязаны са святлом, а святло — гэта тое, што робіць свет бачным: “тут ёсць святло — гэта значыць, што тут можна бачыць”, як, напэўна, сказала б А.Вежбіцка, і прасцей ужо не скажаш — гэта ўзровень “семантычных прымітываў”[1]. А яшчэ свет і святло — гэта жыццё, а цемра — смерць (а калі смерць і свет, дык той, а не гэты). Дык якім я бачу свет, у якім я жыву? І, дарэчы, ці трэба яго бачыць, каб яго ведаць і разумець? Цікава прасачыць, як ставіў і вырашаў гэтыя зусім не простыя пытанні паэт Максім Багдановіч.

На першы погляд бачанне ўяўляе сабой натуральную перадумову апастэрыёрнага ведання. Бачу — значыць ведаю; гэтая відавочная імплікацыя, дарэчы, лёгка верыфікуецца агульнасцю этымалогіі старажытных славянскіх дзеясловаў видѣти і вѣдѣти. Але не ўсё так проста:

*З нізкага берага дно акіяна вачам*
*недаступна, —*
*Глуха ўкрыла яго сіняя цемень вады.*
*Але ўзбярыся ўгару на вяршыню*
*прыбрэжнай страмніны, —*
*Кожны каменьчык на дне, пэўна,*
*пабачыш ты стуль.*
(Пентаметры)

Значыць, наша бачанне не абсалютнае. Па-першае, бачнае “адсюль” можа не супадаць з бачным “стуль”, а па-другое, зроку можа быць даступна нешта знешняе, павярхоўнае, пад якім хаваецца сутнасць, ісціна (гэта, зразумела, самая простая і відавочная інтэрпрэтацыя прыведзенага фрагмента, якая пакідае па-за ўвагай важны матыў трохступеннага вертыкальнага чляНення прасторы, спецыфіку рэалізацыі апазіцыі “святло-цемра” і інш., але зараз нам патрэбна менавіта гэтая, хай і спрошчаная трактоўка). Важна і тое, што неперах одная мяжы паміж бачнасцю і ісцінай няма — трэба толькі памяняць ракурс, пункт гледжання.

Ці інакш:

*Не блішчыць у час змяркання*
*і ў глыбокай цемні ночы*
*Дыямент каштоўны,*
*Але белым днём красою нам чаруе,*
*вабіць вочы*
*Блеск яго цудоўны* <...>

Значыць, яшчэ вось што: каб убачыць, трэба глядзець на рэч тады, калі яна выяўляе сваю сутнасць. Нельга ўбачыць сутнасць рэчы, зразумець рэч, калі, паводле цудоўнага выразу М.Хайдэгера, “заспець” яе “зняняцку”[2]. Толькі калі глядзець у пэўны момант (параўн. добра вядомы ў культуры матыў “бачання ў адзначаныя моманты”[3]), пад цемрай бачнасці адкрыецца святло ісціны. Але каму адкрыецца?

*Кінь вечны плач свой аб старонцы!*
*Няўжо жа цёмнай ноччу ты*
*Не бачыш, што глядзіцца сонца*
*ў люстэрка — месяц залаты?* <...>

*Я пад яе зімовай маскай —*
*Пад снегам — бачу твар вясны,*
*І вее верш мой дзіўнай казкай,*
*І ясны ён, як зорак сны.*

“Ты” і “я” глядзяць нібыта на адно і тое ж, а бачаць не тое што розныя, а відавочна супрацьлеглыя карціны свету. У “мяне” — сонца, дзень, вясна, твар, і таму “мне”ададзены верш. У “цябе” — ноч, месяц, зіма, снег, маска, і таму “табе” застаецца толькі плач (цікава, ці прыходзіла Багдановічу на памяць біблейскае: “Вочы маюць, а не бачаць”?). Але чаму ж “я” бачыць не тое ж, што “ты”? Ці, дакладней, так: чаму “я”, гледзячы на тыя ж рэчы, што і “ты”, бачыць і тое, што знаходзіцца за гэтымі рэчамі? Відаць, таму, што глядзіць нейкім іншым зрокам. Якім іншым зрокам?

*Халоднай ноччу я ў шырокім,*
*цёмным полі*
*Каля агнішча лёг і сціхнуў у паўсне.*
*Агонь усё слабеў... урэшце знік паволі...*
*І ўраз зрабілася вясёла неяк мне!..*
*Хай, шэры попел, ты агнішча ўсё сабою*
*Ў нядоўгі час здалеў, як рызаю*
*пакрыць, —*
*Я ведаю, што там агонь дрыжыць*
*пад ёю,*
*Я ведаю, што там чырвоны жар*
*гарыць...*
*Хай чарада гадзін панурых, нудных,*
*шэрых,*
*Як попел, на душу мне клалася*
*ўвесь час,*
*Хаваючы сабой агонь гарачай веры, —*
*Хай не відаць яго... а ўсё ж ткі ён*
*не згас!*

Тут жа толькі “я”, “я” адзін, і нязменная сістэма часава-прасторавых каардынат, а карціна зноў антытэтычна раздвоілася. Відаць, таму што ў “мяне” два зрокі. Адзін знешні, фізічны — гэта тое, што “відаць”: халоднае, цёмнае, шэрае, панурае, нуднае. А другі ўнутраны — гэта тое, што “ведаю”: чырвонае, гарачае, ад якога “вясёла”. А, дарэчы, ад чаго, уласна кажучы, вясёла? Ад таго, што ўбачыў “вясёлае” — жывы, гарачы агонь, ці ад таго, што здолеў яго ўбачыць пад шэрым покрывам? Вясёла ад таго, *што* ўбачыў, ці ад таго, што *ўбачыў*? Ці тое і другое разам? Прымем па праву “чытацкай прэзумпцыі” апошняе і адзначым: пазнаць святло ісціны (і таму што святло, і таму што ісціны) — радасна (а калі не пазнаць, тады і атрымліваецца не “верш”, а “плач”). Але бачым мы яе, гэтую ісціну, не вачыма — вачыма якраз “не відаць”. А тое, што мы бачым вачыма, — гэта і ёсць тое покрыва, якое хавае пад сабой ісціну. Можа, тады, каб ведаць ісціну, і *не трэба бачыць*? Ці, можа, нават трэба *не бачыць*?

Надзея КАРОТКІНА



# ЧАЛАВЕК І МАТЭРЫЯЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ

## СПРОБА АСЭНСАВАННЯ ЭСТЭТЫЧНАГА ВОПЫТУ

Сёння мы з настальгіяй прыгадваем тыя часы, калі чалавек арганічна суіснаваў з прыродай, са створаным ім матэрыяльным асяроддзем. Але па сутнасці мы вельмі мала ведаем аб законах гарманічнага суіснавання. Безумоўна, сучасная навука зрабіла колькі крокаў у гэтым напрамку, таму смешна было б прэтэндаваць на ролю першаадкрывальніка. Але мяне хвалююць сёння таямніцы ўладкавання матэрыльнага і духоўнага жыцця менавіта нашых продкаў, прагаспадароў нашага з вамі абшару зямлі.

Як зразумець тыя матывы, што кіравалі беларусамі ў стварэнні тых ці іншых рэчаў, якія сёння ўспрымаюцца з захапленнем, як нешта далёка-касмічнае і разам з тым крыху наіўнае? Якія псіхалагічныя і біялагічныя імпульсы спрыялі ўзнікненню менавіта такіх, а не іншых формаў, рытмаў, каляровых суадносін, і як гэта звязана з нацыянальнай сістэмай светаўспрыняцця?

І, бадай, галоўнае пытанне — гэта як знайсці, як матэрыялізаваць сувязь паміж мінулым і сённяшнім? Як спыніць плынь кітча ў “нацыянальным стылі”, які з ілюзорнай паспяховасцю падмяняе зараз нацыянальны дызайн?

Толькі праз зварот да эстэтычнага вопыту нашых праайцоў і АБАВЯЗКОВАЕ ЯГО ПЕРААСЭНСАВАННЕ ў кантэксце сённяшняга жыцця мы здолеем стварыць сучасную нацыянальную эстэтыку і ўдыхнуць душу ў наш матэрыяльны свет. (Няхай нам паслужыць прыкладам вопыт японцаў, фінаў і г.д.)

А гэтую працу прашу лічыць прыкладам збору матэрыялу па абазначанай праблеме, падмацаванага маімі суб’ектыўнымі назіраннямі*.

* * *

Дрэва і тканіна. Яны побач з чалавекам з нараджэння і да смерці. Я імкнуся правесці паралелі ў падыходзе да апрацоўкі і аздаблення гэтых матэрыялаў, бо гармонія, на маю думку, у паслядоўнасці і адзінстве. Пры вонкавым адрозненні матэрыялаў апрацоўка іх падпарадкоўваецца агульным прынцыпам, якія з’яўляюцца вынікам псіхалогіі і ўспрыняцця чалавекам навакольнага асяроддзя і яго матэрыяльных і духоўных патрабаванняў. А калі мець на ўвазе мастацкі бок, то істотным надаецца тонкае адчуванне ўласцівасцяў матэрыялу, глыбокае разуменне ўзаемасувязі прыгажосці і функцыі.



Агульны прынцып стварэння трывалай (а значыць — прыгожай) структуры, якая ўтвараецца пры ўзаемадзеянні жэрдкі і галіны (пляцень), асновы і ўтка (тканіна), а ў выніку — вертыкалі і гарызанталі, што само па сабе з’яўляецца схемай асэнсавання Быцця, ілюстрацыяй канцэпцыі стварэння Свету.



А.



Б.



В.

А. Матэрыяльны хаос. Матэрыя на сумежжы з Нябытам.

Б. Хаос падпарадкоўваецца трывалай структуры тканіны.

Пачатак стварэння Парадку.

В. Першасная структура ўскладняецца і эстэтычна ўзбагачаецца ўпарадкаваннем хаосу. Ствараецца новы тып Парадку.



А.



Б.



В.

3. Прыклады падпарадкавання матэрыяльнага асяроддзя пэўным рытмам, напаўнення яго, вобразна кажучы, “візуальнымі гукамі”.

Рытм то павольна адлічвае вянкі хаты і шлякі ручніка (А.), то, гуляючы, скача па паверхні лукаткамі (Б. — аздабленне дзвярэй; тканы пас), то замыкаецца ў рамбавідным карагодзе (В. — драўляныя дзверы; вышываны матыў).

Паверхні прадметаў, а як вынік — прастора ўвогуле, з гарманічнай паслядоўнасцю падзяляюцца на рытмізаваныя структуры, што з’яўляецца адлюстраваннем уяўленняў чалавека аб прыгажосці і адначасова дыктуе яму паводзіны (адваротная сувязь), а таксама фарміруе разнастайнае ў мастацкіх адносінах асяроддзе.





Камбінаторыка модуляў стварае шырока вядомы нацыянальны матыў — “імгліцу”. Аналізуючы сродкі яе выразнасці, нельга не заўважыць цікавы аптычны эфект, што яна ўтварае. Трывалая матэрыя, і раптам — ілюзія растварэння, падман, гульня. Звыклы, традыцыйны матэрыял — і незвычайны мастацкі прыём, які “вымушае” паветра ледзь бачна вібраваць. (Гэткі “народны оп-арт”).

*Калісь глядзеў на сонца я,*
*Мне сонца асляпіла вочы.*
*Ды што мне цемень вечнай ночы,*
*Калісь глядзеў на сонца я.* <...>

Цяпер зразумела, чаму "ды што мне...". Гэтая слепата — не нябачанне, а ўнутранае бачанне, звышбачанне, гэта цемра, асветленая ўнутраным святлом, гэта бачанне ісціны, якому нішто не перашкаджае — апошняе, зрэшты, даўно вядомае: "Зрок вачэй перашкаджае празорлівасці розуму", — так сказана яшчэ ў Дэмакрыта[4].

Значыць: "ведаю тое, што бачу" — "ведаю тое, што бачу пры пэўных умовах" — "ведаю тое, што бачу я" — "ведаю тое, што не бачу" — "ведаю, хоць нічога не бачу (ці нават *таму што* нічога не бачу)". Уражвае тут не наяўнасць у творчасці Багдановіча кожнага з гэтых паасобных матываў — кожны з іх добра вядомы і распрацаваны ў культуры (у тым ліку і ў паэзіі) — уражвае, як паэт праходзіць усе звёны гэтага лагічнага ланцуга, нічога не выпускаючы і гаворачы ледзь не ўсё, што тут можна сказаць (ці, дакладней, так: гаворачы амаль пра ўсё, пра што можна гаварыць).

Але не будзем забывацца на тое, што ў канцы гэтага ланцуга — слепата, якая сімвалізуе... А што яна, уласна кажучы, сімвалізуе? Паводле агульнавядомых і ўстойлівых культурных традыцый, напэўна, веданне (якое і ёсць бачанне ўнутраным зрокам, звышбачанне). Прыгадаем самага, відаць, славутага міфалагічнага сляпога — Эдыпа, фінальнае самаасляпленне якога — гэта не толькі і не столькі акт сімвалічнай пакуты ці самапакарання — гэта акт сімвалічнага далучэння да ведання. Бо пакуль ён меў вочы, то не валодаў веданнем, а калі даведаўся, то "асляпіў сябе, усвядоміўшы слепату ўмовай сапраўднага ведання і, у прыватнасці, самапазнання"[5]. Але, апрача сімволікі слепаты, ёсць яшчэ сімволіка сляпога песняра (паэта, прарока).

Сляпы — іншы, і пясняр — іншы, і абодва вылучаны сваёй іншасцю з усіх ("Няхай усе з мяне рагочуць..."). І слепата сляпога — звышбачанне, і слепата песняра — звышбачанне, і таму слепата песняра — гэта рэч зусім асаблівая (чаму, напэўна, так лёгка і міфалагізуецца лёс — сапраўдны ці легендарны — сляпога творцы: Гамера, Мільтана, Борхеса). Ён сляпы, таму што ён пясняр, і ён пясняр, таму што ён сляпы (натуральная для міфалагічнага мыслення ўзаемазамяняльнасць прычыны і выніку: у міфе сімвалізуюцца не рэчы і ўласцівасці, а адносіны паміж імі). Нездарма ў міфе фізічны зрок і песнярскі дар звязаны відавочнай і глыбіннай сувяззю: песнярскі (ці прароцкі) талент можа быць дадзены ў кампенсацыю за асляпленне (Тырэсі) ці адабраны разам са зрокам у пакаранне (Фамірыд). І невыпадкова старажытныя Музы-мышы, як гэта высветлілася дзякуючы бліскучым даследаванням У.М.Тапарова, апроч паэтычнай функцыі, мелі яшчэ і шкодную, прычым спецыяльна звязаную з вачыма — г.зн. асляпляльную[6]. Так узнікае тэма слепаты як расплаты. Багдановіч заўсёды добра ведаў, што за песні, за "блеск і жар" мовы, за далучэнне да святла і "красы" (увогуле — за радасць ведання) трэба плаціць — болем, "агнём мучэння", кроўю, жыццём (дастаткова прыгадаць яго вершы "Ціхія мае ўсе песні, цёмныя, як вугаль чорны...", "Ой, чаму я стаў паэтам...", "Свяча бліскучая зіяе..." і інш.). У гэтым шэрагу, канечне, і фізічны зрок.

Але тут ёсць яшчэ адно. Нават пры беглым позірку на шэраг тэкстаў Багдановіча кідаецца ў вочы наяўнасць у іх аднаго вельмі істотнага і ўстойлівага матыву: гэта матыў схаванасці. Пад "кветамі", бур'янам і травой хаваецца забытая магіла — пад бляскам і жарам мовы хаваецца туга песняра ("Скрылась кветамі ў полі магіла..."), у цемры ночы хаваецца бляск каштоўнага дыямента — у цемры хаваецца святло духу беларускага народа ("Не блішчыць у час змяркання і ў глыбокай цемні ночы..."), пад попелам хаваецца жывы агонь — пад чарадой панурых гадзін хаваецца агонь гарачай веры ("Халоднай ноччу я ў шырокім, цёмным полі... "), пад сіняй "цеменню" вады хаваецца дно акіяна ("Пентаметры"), у чорным цяні хаваецца "доля горкая" ("Дождж у полі і холад... Імгла...") — пералік няцяжка працягнуць. Гэта цікава само па сабе — за ўсім гэтым паўстае пэўная карціна свету — свету, у якім сапраўднае схавана за нейкай заслонай ці, дакладней кажучы, покрывам, менавіта покрывам — яны размешчаны не адно *за* адным, а адно *пад* другім, і каб убачыць і зразумець першае, трэба пранікнуць пад другое — цікава параўнаць гэтую карціну свету з тым, як асэнсоўваў свет равеснік Багдановіча М.Хайдэгер, які, паводле трапнага выразу С.Аверынцава, "толькі і дбаў пра тое, каб das Siende, існае, не закрывала сабою das Seien, быццё"[7], і для якога ісціна і была "несхаванасць існага"[8] (дазволім сабе тут не зважаць на тонкасці філасофскай тэрміналогіі, адзначыўшы самае для нас істотнае: вось гэтыя "закрывала сабой" і "несхаванасць").

Не менш важнае і іншае: як у свеце (як ён бачыцца паэту) пад попелам (бур'янам, цемрай ночы) хаваецца жывы агонь (забытая магіла, бляск каштоўнага дыямента), так і ў вершы (як ён пабудаваны паэтам) пад вобразам нязгаслага агнішча (парослай магілы, схаванага святла дыямента) хаваецца вобраз нязгаслай душы (нябачнай тугі песняра, схаванага "да часу" святла душы беларускага народа). Іншымі словамі, як у свеце ісціна хаваецца пад покрывам бачнасці, так і ў тэксце паэтычны сэнс хаваецца за покрывам сімвалічнай іншасказальнасці[9]. Дарэчы, і тут не *за*, а менавіта *пад*: сімвал — гэта вертыкальная сувязь паміж азначальным і азначаемым (гл. у Р.Барта: "Сімвалічная свядомасць бачыць знак у яго глыбінным, можна сказаць, геалагічным вымярэнні, паколькі ў яго вачах менавіта яруснае заляганне азначальнага і азначаемага стварае сімвал"[10]).

Такім чынам, спосаб бачання свету аказваецца ізаморфным спосабу яго апісання (тэксту), а сэнс тэксту — ізаморфным яго структуры. Ці, у іншым ракурсе, ізаморфнымі аказваюцца той, *хто* бачыць, і тое, *што* ён бачыць: кожны бачыць у свеце толькі тое і так, што і як ён, такі, які ён ёсць, можа ўбачыць. Або наадварот: кожнаму ў свеце адкрываецца толькі тое і так, што і як захоча яму, такому, які ён ёсць, адкрыцца. Гэта, дарэчы, таксама ідэя зусім не новая: "Вока ніколі не ўбачыла б сонца, калі не было б сонцападобным, і душа не ўбачыць прыгожае, калі не будзе прыгожай. Таму хай спачатку будзе цалкам богападобным і цалкам прыгожым, калі хто хоча сузіраць добрае і прыгожае", — так сказана ў трактаце Плоціна "Аб прыгожым" больш за семнаццаць стагоддзяў таму[11]. Але ці многія паэты даюць нам шчаслівую магчымасць убачыць і зразумець гэтую старую ісціну?

---

[1] Гл.: Вежбицка А. Из книги "Семантические примитивы". Введение // Семиотика. М., 1983. С. 241.

[2] Гл.: Хайдеггер М. Исток художественного творения// Зарубежная эстетика и теория литературы. М., 1987. С. 270.

[3] Гл., напрыклад: Цивьян Т.В. Категория видимого/невидимого: балканские маргиналии// Balkanica. М., 1979. С. 202.

[4] Цыт. па: Аверинцев С.С. Поэтика ранневизантийской литературы. М., 1977. С. 54.

[5] Цивьян Т.В. Категория видимого/невидимого. С. 206.

[6] Гл.: Топоров В.Н. Музы: Соображения об имени и предыстории образа (к оценке фракийского вклада)//Славянское и балканское языкознание. Античная балканистика и сравнительная грамматика. М., 1977. С. 28 — 86.

[7] Аверинцев С.С. Судьба и весть Осипа Мандельштама//Мандельштам О.Э. Сочинения. В 2-х томах. Т.1. М., 1990. С.17.

[8] Хайдеггер М. Исток художественного творения. С.289.

[9] Разумеючы ўсю складанасць праблемы трактоўкі разглядаемых вобразаў (сімвал, аналогія, разгорнутае параўнанне і г.д.), мы аддаем перавагу іх аўтарскаму асэнсаванню — сам Багдановіч, як відаць, лічыў іх сімваламі (гл., напрыклад, у санетах "Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі..." і "Замерзла ноччу шпаркая крыніца...").

[10] Барт Р. Воображение знака//Барт Р. Избранные работы: Семиотика. Поэтика. М., 1989. С. 247 — 248.

[11] Цыт. па: Михайлов А.В. Глаз художника (художественное видение Гёте)//Традиция в истории культуры. М., 1978. С.163.

---





Ідэя трываласці духоўнай і матэрыяльнай увасобілася ў вобразным падабенстве.

| Рамбавідная арматура для тынкоўкі | Тканы пас з рамбавідным арнаментам |
|---|---|
| "абярог" ад фізічнага разбурэння | "абярог" ад адмоўнага энергетычнага ўздзеяння (і як вынік — разбурэння фізічнага). |
| трываласць матэрыяльная | трываласць духоўная |





Задавальняючы сваю патрэбу ў актыўных фактурах, чалавек крые дах саломай, упрыгожвае адзенне кутасамі.

ПОЎСЦЬ — ФУТРА — САЛОМА — КУТАС

абаронeнасць — цяпло — уладкаванасць — ПРЫГАЖОСЦЬ

Прыгожа тое, што зберагае, абараняе, саграваe ці нейкім чынам асацыіруецца з цяплом і ўладкаванасцю.



Прырода ўпрыгожвае галамень дрэва таямнічымі колцамі Часу, якія, як маленькія спіралевідныя мадэлі Сусвету, ствараюць карункі Быцця. Чалавек жа, як падабенства Прыроды, падсвядома імкнецца паўтарыць акт Стварэння на розных узроўнях сваёй дзейнасці.



А.



Б.

А. Пранікненне ў культавае драўлянае дойлідства элемента візантыйскай архітэктуры (дуга, арка), пры дапамозе якога вырашаецца праём (уваход, адкрыты "зрэз").

Б. Аздабленне аналагічнымі элементамі швоў, зрэзаў, "уваходаў" вопраткі, што завяршае кампазіцыю кажуха, падкрэслівае яго канструктыўную выразнасць.



Першасная фактура матэрыялу (дрэва, тканіны) ўзбагачаецца за кошт драблення яе паверхні на модулі (гонт, складка). Такім шляхам дасягаецца дэкаратыўная выразнасць плоскасцяў.



І на заканчэнне — вобразная аналогія, у якой, на маю думку, увасобілася ідэя арганічнага зліцця чалавека і вопраткі, чалавека і архітэктуры, чалавека і матэрыяльнага асяроддзя у цэлым.

**ЧАЛАВЕК** —
замкнёная, але безабаронная сістэма

**ВОПРАТКА** —
абалонка, якая працягвае будаваць гэтую сістэму, абараняючы, саграваючы і ўпрыгожваючы чалавека.

**АРХІТЭКТУРА** —
апошняя ілюзія трываласці і замкнёнасці, "зашпіленасці" і непахіснасці.

---

* У падрыхтоўцы фотаматэрыялаў выкарыстаны: экспанаты Дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту Рэспублікі Беларусь, альбом М.Раманюка "Беларускае народнае адзенне", 1981; каталог "Беларускія народныя тканіны", 1979.






*З мэтай пашырэння культурнага і інтэлектуальнага кантэкстаў сучаснага беларускага грамадства Беларускі Фонд Сораса ажыццяўляе праграму перакладу серыі кніг вядомых заходніх аўтараў у такіх галінах сацыяльных ведаў, як культурная антрапалогія, гісторыя, паліталогія, эканоміка, псіхалінгвістыка, філасофія і інш. Мяркую, што чытачам "ЗНО" будзе цікава даведацца пра тое, што ў бягучым годзе яны змогуць пазнаёміцца з большасцю тых кніг, над якімі зараз вядзецца праца. А менавіта гэта такія кнігі, як "Гістарычныя ўводзіны ў філасофію навукі" Дж.Лоўзі, "Беларусь на скрыжаванні гісторыі" Я.Запрудніка, "Археалогія" Б.Фагана, "Сучасная культурная антрапалогія" М.Говарда, "Уводзіны ў палітыку" Ш.Дэбаша і Ж.-М.Панціе і шэраг іншых. Сёння Беларускі Фонд Сораса, а таксама перакладчык Сяржук Нагорны і навуковы рэдактар Ігар Бабкоў прапануюць Вашай увазе урывак з кнігі вядомага ангельскага даследчыка Энтані Сміта "Нацыяналізм у XX стагоддзі"(выдавецтва New York University Press). Хачу выказаць падзяку газеце "Культура" за ласкавую прапанову пачаць друкаванне ўрыўкаў з тых кніг, якія ўжо падрыхтаваны альбо рыхтуюцца да друку, у літаратурна-філасофскім сшытку "ЗНО". Карыстаючы з нагоды, хачу запрасіць да супрацоўніцтва перакладчыкаў з ангельскай, французскай і нямецкай моваў. З прапановамі звяртацца ў Беларускі Фонд Сораса па тэл. 32-80-92 і 32-70-64.*

**Алесь АНЦІПЕНКА,**
**каардынатар культурных і выдавецкіх праграм**

# НАЦЫЯНАЛІЗМ У XX СТАГОДДЗІ

## Раздзел I
## РАЗВІЦЦЁ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

З усіх светаглядаў і веравызнанняў, якія змагаюцца за прыхільнасці людзей у сучасным свеце, найбольш распаўсюджанай і трывалай з'яўляецца нацыянальная ідэя. Іншыя веравызнанні дасягнулі больш эфектнага, але часовага поспеху ці больш моцнага апірышча ў адной пэўнай краіне. Іншыя светагляды ўздымалі людзей на больш жахлівыя і гераічныя дзеянні. Але нішто не змагло так паспяхова ўвайсці ў кожную частку свету, нішто не было больш здольным прыцягваць да сваіх ідэалаў людзей розных жыццёвых досведаў і ў розных краінах. Ні адна іншая ідэя не магла з'яўляцца ў такіх разнастайных абліччах альбо перажываць часовы заняпад толькі для таго, каб пасля стаць больш моцнай і трывалай. Ні адзін іншы светагляд не пакінуў такога моцнага адбітку на мапе свету і на нашым пачуцці саматоеснасці. Перш за ўсё і перадусім нас ідэнтыфікуюць з нашай "нацыяй". Наша жыццё рэгулюецца, збольшага, нацыянальнай дзяржавай, у якой мы нарадзіліся. Вайна і мір, гандаль і падарожжы, адукацыя і дабрабыт вызначаюцца для кожнага з нас нацыянальнай дзяржавай, у якой мы маем жыхарства. З дзяцінства нас натхняюць каханнем да краіны і вучаць асаблівым вартасцям нашай нацыі. І хаця ў далейшым жыцці некаторыя з нас могуць адмовіцца ад патрыятычнага ідэалу, а некаторыя стаць "здраднікамі", асноўная большасць грамадзян будзе захоўваць ціхую лаяльнасць да сваёй нацыі, што ў момант крызы можа пераўтварыцца ў палкую адданасць і гарачае падпарадкаванне да закліку грамадзянскага абавязку.

Што ж гэта за ідэя, якая можа выклікаць такую адданасць у стольких краінах? Адкуль яна пайшла? Бо гэта не было нешта прыроднае, прыналежнае чалавеку, як фізічныя рысы ці сям'я. Першае яснае сцвярджэнне гэтае ідэі мы бачым у часе Французскай рэвалюцыі. Тут можна прачытаць, што толькі нацыя ёсць сапраўдным суверэнам, перадусім нацыі чалавек мусіць быць адданы, і што толькі нацыя можа рабіць законы для сваіх грамадзян. Тут таксама ўпершыню можна пачуць заклікі да зброі ў абарону Бацькаўшчыны (Patrie) і думку аб тым, што "грамадзянін" Францыі мае пэўныя правы і абавязкі да сваёй нацыі. Хаця французская рэвалюцыя не была першай, якая разгарнула сцяг ці склала гімн нацыі; яна была першым момантам, калі самакіраваныя грамадзяне дзейнічалі разам на карысць справы "нацыі", а не дынастыі. І ўпершыню грамадзяне намагаліся распаўсюдзіць адзіную культуру і адзіную мову на ўсе рэгіёны сваёй краіны, зламаць усе бар'еры паміж гэтымі рэгіёнамі, стаць адной нацыяй, адданай аднае ідэі.

Што ж было гэтай нацыянальнай ідэяй? Перш за ўсё гэта было перакананне, што ўсе тыя, хто падзяляе агульную гісторыю і культуру, павінны быць аўтаномнымі, аб'яднанымі і вызначанымі ў сваёй шанаванай і прызнанай радзіме. Але калі французы, як і англічане, маглі гаварыць пераважна аб агульнай гісторыі і культуры, то для іншых гэта было досыць праблематычна. Французам не трэба было падкрэсліваць сваю вызначанасць ці саматоеснасць. Яны маглі сканцэнтравацца на дасягненні самакіравання і адзінства, на звяржэнні абсалютысцкага ancien régime і на разбурэнні феадальных бар'ераў паміж рэгіёнамі. Але немцы, італьянцы і грэкі, якія ўспрынялі нацыянальную ідэю неўзабаве перад пачаткам напалеонаўскіх заваёваў, не маглі гаварыць аб глыбокім адчуванні агульнай гісторыі ці культуры, — і нават аб тым мінімуме тэрытарыяльнага адзінства, які мелі французы з іх амаль што "натуральнымі" межамі. Яны, такім чынам, былі вымушаны надаваць значна больш увагі натхненню сваіх суайчыннікаў пачуццём новай "нацыянальнай" своеасаблівасці і саматоеснасці. З самага пачатку, такім чынам, "нацыянальная ідэя" пачала пашыраць свой змест дзеля адпаведнасці новым інтарэсам і іншым патрэбам.

Гісторыя развіцця нацыянальнае ідэі з'яўляецца гісторыяй яе бесперапыннага пашырэння і трансфармацыі дзеля адпаведнасці размаітым інтарэсам і патрэбам усё новых хваляў сваіх прыхільнікаў і служкаў. Але гэта таксама гісторыя пратэанскай здольнасці заставацца нязменнай праз усе свае трансфармацыі, перад разнастайнымі выклікамі, з якімі ёй давялося сустрэцца (ад іншых веравызнанняў і ідэяў).

У грунце "нацыянальнай ідэі" ляжыць пэўнае светаўспрыняцце і пэўны тып культуры. У адпаведнасці з гэтым успрыняццем чалавецтва "рэальна" і "натуральна" падзяляецца па гісторыі і культуры на вызначаныя супольнасці, якія называюць нацыямі. Кожная нацыя своеасаблівая і унікальная. Кожная мае свой унёсак у цэлае, у сям'ю нацыяў.

Кожная нацыя вызначае саматоеснасць сваіх членаў, таму што яе спецыфічная культура фармуе асобу. Ключом да гэтай культуры з'яўляецца гісторыя, пачуццё гістарычных архетыпаў, якія перадаюцца да новых і новых пакаленняў пэўнае групы. Гістарычная культура звязвае сучасныя і будучыя пакаленнні, як звёны ланцуга, з усімі папярэднікамі, і такім чынам фармуе характар і звычаі нацыі на ўсе часы. Чалавек вызначае сябе ў адпаведнасці з нацыянальнай ідэяй, праз сваю сувязь з продкамі і папярэднікамі, а таксама і з падзеямі, якія сфармавалі іх характар. Нацыянальная ідэя, такім чынам, увасабляе як ўспрыняцце свету, падзеленага на паралельныя і вызначаныя нацыі, так і культуру, што абапіраецца на унікальныя падзеі, якія сфармавалі нацыянальны характар.

Але нацыянальная ідэя патрабуе нечага большага, чым нават асаблівае светаўспрыняцце, ці асаблівая культура, што абапіраецца на гістарычныя падзеі. Яна таксама патрабуе пэўны від салідарнасці і палітычную праграму. Нацыянальная ідэя непазбежна вядзе да "нацыяналізму" — праграмы дзеянняў для дасягнення і падтрымкі гэтай ідэі. Салідарнасць, аб якой мараць нацыяналісты, засноўваецца на валоданні зямлёй; зямлёй мінулых пакаленняў, зямлёй, якая бачыла росквіт нацыянальнага генія. Такім чынам, нацыяналіст жадае ізноў завалодаць зямлёй, зрабіць яе абароненай "радзімай" для нацыі і пабудаваць на ёй нацыю. Салідарнасць, якую ён жадае, такім чынам, засноўваецца на тэрыторыі. Без тэрыторыі немагчыма пабудаваць братэрства і салідарнасць, якіх патрабуе нацыянальная ідэя. Нельга натхніць людзей пачуццём крэўнасці і братэрства без прылучэння іх да месца, якое яны адчуваюць сваім, да радзімы, якая належыць ім па праву гісторыі. Таксама не змогуць яны рэалізаваць сваю саматоеснасць і культуру ў будучыні, калі толькі не будуць мець шанаваную і прызнаную радзіму.

Але каб гэта адбылося, радзіма павінна быць вольнай. Ёю не могуць кіраваць іншыя, людзі з іншай гістарычнай культурай. Такім чынам, нацыяналісты ўцягваюцца ў палітыку, у барацьбу за самакіраванне і суверэнітэт у сваёй радзіме. Не ўсе нацыяналісты жадаюць поўнага суверэнітэту. Некаторыя могуць пажадаць аўтаномію "самакіравання" ці федэрацыю з іншай дзяржавай. Але ўсе жадаюць прызнання іх права на радзіму і свабоду ад умяшальніцтва ў свае ўнутраныя, асабліва культурныя, справы. І паколькі такое прызнанне і свабоду часцяком складана захаваць у федэрацыі з больш моцнай дзяржавай, нацыяналісты звычайна аддаюць перавагу аддзяленню з мэтай стварэння ўласнай суверэннай дзяржавы, за чыю бяспеку і адміністраванне яны будуць цалкам адказныя. У такой дзяржаве яны змогуць свабодна ствараць такія арганізацыі і праводзіць такія дзеянні, якія будуць найлепш адпавядаць асаблівым патрэбам іх нацыі і яе гістарычнай культуры.

Нацыяналізм, такім чынам, уключае чатыры элементы: светагляд, культуру, салідарнасць і палітыку. Ён адказвае на ідэалагічныя, культурныя, сацыяльныя і палітычныя спадзяванні і патрэбы. Яго поспех на працягу двух стагоддзяў часткова залежаў ад шкалы патрэбаў, якія ён задавальняў. Але не менш істотныя спосабы, якімі нацыяналісты могуць адаптаваць светагляд, культуру, салідарнасць і чыннасць да разнастайных сітуацыяў і інтарэсаў. Менавіта гнуткасць дазволіла нацыяналізму бесперапынна аднаўляцца і распаўсюджвацца, за кошт яго ідэалагічных канкурэнтаў, з 1789 года па сённяшні дзень.

Цэнтральнай тэмай гэтай кнігі з'яўляецца адраджэнне і аднаўленне нацыяналізму ў дваццатым стагоддзі, нягледзячы на сур'ёзныя выклікі ад іншых вераў. У наступных раздзелах я больш дэталёва разгледжу сутнасць і карані нацыянальнае ідэі, а таксама галоўныя выклікі яе першынству ў нашым стагоддзі. Нацыяналізм, безумоўна, меў часовыя заняпады ў Еўропе пасля абедзвюх сусветных войнаў, і нават сёння ён вытрымлівае сур'ёзныя выпрабаванні ў некаторых азіяцкіх, афрыканскіх і лацінаамерыканскіх краінах. Тым не менш яму заўсёды ўдавалася ўтрымацца супраць іншых ідэалогій і аднавіцца ў новых абліччах і з




іншымі акцэнтамі. У сваіх высновах я паспрабую даць некалькі прапаноў аб адраджэнні нацыяналізму і яго працяглае прывабнасці сёння. Тым не менш немагчыма асэнсаваць ролю нацыяналізму ў сучасным сутыкненні ідэалогій без змяшчэння яго ў гістарычны кантэкст і разгляду асноўных ліній паходжання нацыяналізму і ягонага развіцця напрыканцы васемнаццатага і ў дзевятнаццатым стагоддзі. У наступным кароткім нарысе я, такім чынам, проста вызначу некаторыя з галоўных фазаў і накірункаў у гэтым гістарычным развіцці.

### АСВЕТНІКІ І РАМАНТЫКІ

Калі Русо і французскія рэвалюцыянеры пачалі свой шлях да нацыянальнае ідэі, яны не працавалі ў інтэлектуальным вакууме. Лютэравы пераклад Бібліі на нямецкую мову запачаткаваў цікавасць да мясцовых моваў (замест лацінскай), а рэнесансны гуманізм пашырыў захапленне антычнай літаратурай і мастацтвам. Разам з паніжэннем рэлігійнай нецярпімасці напрыканцы семнаццатага стагоддзя цікавасць ранняга асветніцтва да паганскае старажытнасці дала жыццё шэрагу важных культурных дэбатаў. Першы з іх, Спрэчка паміж Старамоднымі і Сучаснымі, разгарнула параўнанне паміж пэўнымі вартасцямі антычнасці і васемнаццатым стагоддзем і прывяла да аптымістычнай высновы, што магчыма пераўзыйсці старажытных у мастацтвах і навуках. Іншая спрэчка закранала адпаведныя якасці грэкаў і рымлянаў, асабліва пасля таго, як такія даследчыкі і мастакі, як Сцюарт і Рэвет расплюшчылі еўрапейцам вочы на чысціню і годнасць грэцкага мастацтва. Трэцяя спрэчка, якая перакрывала дзве папярэднія, падзяліла тых, хто быў прыхільнікамі больш імперыяльнага ці "Аўгустаўскага" ідэалу антычнасці, што ўвасаблялася ў Рымскай імперыі, і тых, хто аддаваў перавагу "дарыйскай" прастаце і яснай годнасці "рэспубліканскага" ідэалу, мадэлямі якога былі Спарта, ранні рэспубліканскі Рым і калінікалі Афіны.

Апошняя з гэтых дыскусіяў мела, безумоўна, палітычную падаплёку, і можна заўважыць відавочны пераход ад культурнага і сацыяльнага рэспубліканскага нацыяналізму Русо ці Дзідро да больш вызначанага палітычнага нацыяналізму ў такіх мастакоў, як Давід, і такіх пісьменнікаў, як Сіе. Светагляд культурна вызначаных нацыяў, кожная з якіх патрабавала сацыяльнага адзінства, сфармаваў зародак "нацыянальнае" ідэі, і жырандынцам з якабінцамі заставалася ажыццявіць гэтую ідэю ў палітычным ладзе. Для падтрымкі і апраўдання сваіх дзеянняў ім патрэбна было толькі звярнуцца да свайго адмысловага прачытання старажытных мадэляў, якія сталі ўвасабленнем іх ідэалаў. Тым, што яны ўсе любілі ў Спарце ці ранніх Рыме, было просты стыль жыцця Цынцыната, вайсковая мужнасць Леаніда і самаахвярнасць Брута ці Като. Што іх моцна ўражвала ў тых грамадствах, дык гэта дух грамадзянскага саўдзелу і перавага супольнасці перад асобнымі членамі, якія добраахвотна прымаюць гэтую субардынацыю. Са сваімі фіксаванымі і прызнанымі тэрытарыяльнымі абмежаваннямі межаў polis антычнасці падаваўся цалкам адпаведным дзеля ажыццяўлення ідэалу добраахвотнае супольнасці і для ўвасаблення сапраўды "нацыянальнага" духу салідарнасці.

Вяртанне да антычнасці ў васемнаццатым стагоддзі, безумоўна, не абмяжоўвалася адным пластом насельніцтва. Каралі і бюракраты, шляхта і гандляры падзялялі агульнаеўрапейскі энтузіязм у адносінах да класічнага свету, Grand Tour (адукацыйнае традыцыйнае падарожжа брытанскіх арыстакратаў па Еўропе дзеля агляду "старажытнасцяў" (рэдакт.)) і адкрыццяў Геркуланеўма, Пампеяў, Пальміры і Афінаў. Пасля 1760 года больш сур'ёзныя падыходы да антычных ідэяў пачалі звяртаць на сябе ўвагу некаторых прадстаўнікоў інтэлігенцыі і сярэдніх класаў. У выніку "рэспубліканскія" ідэалы нэакласіцызму скіраваліся, у прыватнасці, супраць геданізму, цынізму і махінацыяў заганных алігархіяў і абсалютысцкіх рэжымаў ва ўсёй заходняй Еўропе. На кантыненце ў асаблівасці нэакласіцыстырэспубліканцы паўсталі супраць валюнтарызму дэспатычнага права, штучнасці іерархіі і фрагментацыі грамадства, і па ўсіх гэтых напрамках яны адчувальна закранулі інтарэсы сярэдніх класаў.

У Францыі галоўным саюзнікам радыкальнай інтэлігенцыі былі прамыслоўцы і прадпрымальнікі, якія жадалі аб'яднанай рэспублікі, без унутраных бар'ераў і арыстакратычных прывілеяў. У Германіі напачатку інтэлігенцыя была больш ізаляваная і раздробленая; але тут таксама з'яўляўся сярэдні клас і разам з ніжэйшым пластом духавенства даваў асцярожную падтрымку канстытуцыйнай рэформе і больш германізаванай культуры. На ўсходзе, у Польшчы і Венгрыі, безмаёмасныя і збяднелыя арыстакраты пасля 1800 года пачалі групавацца вакол нацыянальнае справы. На Балканах таксама да інтэлігенцыі ў выгнанні хутка далучыліся заможныя гандляры і перакупшчыкі, а таксама многія святары нізкага сану дзеля барацьбы за незалежнасць ад Атаманскай імперыі. Нацыянальная ідэя была нават перавезеная ў Лацінскую Амерыку, дзе вайна самой Гішпаніі за незалежнасць супраць Напалеона з 1808 года дазволіла Балівару і Сан-Марціну павесці больш заможных гарадскіх крэолаў на барацьбу супраць іспанскага імперыяльнага праўлення.

Доступ такіх розных пластоў да нацыянальнае ідэі меў тэндэнцыю пашыраць і трансфармаваць яе змест, у выніку чаго пасля 1800 года нэакласічны французскі радыкальны прыклад перастаў быць адзінай мадэллю. Уплывовымі сталі менш дэмакратычныя і больш містычныя версіі нацыянальнае ідэі, асабліва ў цэнтральнай і ўсходняй Еўропе; і часта мяркуюць, што гэты больш "рамантычны" від нацыяналізму быў выкліканы недахопам моцнай і ўплывовай буржуазіі ў гэтых краінах, якая магла б падтрымаць інтэлігенцыю. Але на ўздым рамантычнага і "арганічнага" нацыяналізму




аказалі не меншы ўплыў іншыя фактары, такія, як класавая структура грамадства. Таму ў Англіі, краіне з найбольш развітай буржуазіяй напрыканцы васемнаццатага стагоддзя, таксама першым паўстаў моцны рамантычны рух. Сярод іншых фактараў мы можам адзначыць палітычны супраціў не толькі напалеонаўскаму праўленню, але і ўсім рэвалюцыйным і рацыяналістычным навацыям, якія ўвяло гэтае праўленне. Акрамя таго, многія народы, якія ён заваяваў, былі падзеленыя і падробленыя, пры гэтым іх інтэлігенцыя магла гаварыць аб гісторыі не менш працяглай, чым французская, і аб мовах, якія сталі з'яўляцца з літаратурнай цемры. Адсюль, у Германіі, Польшчы, Італіі і на Балканах рамантычны падыход да гістарычнай культуры пачаў развіваць цікавасць да этнічных звычаяў, прыхільнасць да роднай мовы, настальгію па язычніцкім і сярэднявечным бляску, рэлігійную прагу — шмат з гэтага мы знаходзім на старонках Русо і Гердэра, дзе ўсюды бачныя родныя сувязі паміж асветнікамі-нэакласіцыстамі і рамантычнымі медыевістамі. Сапраўды, гэтая першая фаза, якая была сведкам нараджэння нацыянальнае ідэі і працягвалася ад 1750-х да рассейвання пры Напалеоне, з'яўляецца адначасова "нэакласічнай" і "перадрамантычнай"; нэакласічная прага аскетычнай антычнасці ідзе рука ў руку з раннім гатычным адраджэннем і разам яны сінтэзуюцца ў моцны палітычны ідэал.

## РАДЫКАЛЫ І ТРАДЫЦЫЯНАЛІСТЫ

Другая фаза пачынаецца з войнаў супраціву Напалеону і працягваецца да 1848 года. Цяпер націск робіцца на патрабаванне аб'яднання і палітычнай незалежнасці, паколькі венгры, немцы, палякі, італьянцы, грэкі, сербы, аргенцінцы і чылійцы патрабавалі канца кантролю чужынцаў, а таксама тэрытарыяльнага аб'яднання — згодна з дэмакратычнымі правамі і гістарычнай неабходнасцю. У большасці выпадкаў нацыяналісты засноўваюць свае патрабаванні на як радыкальных, так і кансерватыўных прынцыпах, хаця напачатку ў Лацінскай Амерыцы радыкальна-дэмакратычны рацыяналізм Асветніцтва і Французскай рэвалюцыі пераважаў у барацьбе супраць традыцыяналісцкай каталіцкай Іспаніі. Ва Ўсходняй Еўропе радыкальная інтэлігенцыя часта паглыналася такімі больш традыцыйна зарыентаванымі пластамі грамадства, як арыстакраты і ніжэйшы пласт духавенства. У барацьбе супраць "асветленых дэспатаў" у Аўстра-Венгрыі, Расіі і Прусіі іх нацыянальны радыкалізм хутка атрымаў містычную, нават месіянскую якасць.

Так, мара аб адроджанай Польшчы, упадобненай знакутаванаму і ўкрыжаванаму Хрысту-збаўцу, натхняла Міцкевіча і ягоны асяродак у выгнанні пасля няўдалага паўстання 1830 года. На Балканах ранняму класічнаму рамантызму Корэ і Рыгаса неўзабаве быў зроблены выклік больш традыцыйнымі "візантыйскімі" марамі, пасля таго як святары і сялянскія лідэры ў Грэцыі і мясцовыя правадыры ў Сербіі заявілі правы на лідэрства ў барацьбе, якая была як рэлігійнай, так і нацыянальнай, і пры якой праваслаўныя супрацьстаялі няверным ісламістам. У Германіі гэтаксама назіралася рэлігійнае адраджэнне пасля 1810 года. Такія нямецкія нацыяналісты, як Ягн, Арндт, Мюллер сталі пераемнікамі рамантычнай веры ў сярэднявечча Тыка, Шлегеля і Наваліса, і марылі аб аднаўленні сярэднявечнага нямецкага рэйху. Гэты самы рамантычны падыход да арганічнага адзінства і хрысціянскага германафільства натхняў Вагнера і volkisch прапагандыстаў пасля 1848 года. У Італіі ўзнялося падобнае жаданне выкарыстаць каталіцтва і папскую спадчыну ў працах кансерватараў, як Жыоберці; і нават такія радыкалы, як Мазіні, надавалі сваім марам аб нацыянальнай незалежнасці рэлігійнае адценне. Па ўсёй Еўропе, ад Ірландыі да Расіі Карамзіна нацыянальная ідэя была пашыраная дзеля ўключэння у яе традыцыяналізму.

Тым не менш гэта таксама было эрай ліберальных і радыкальных нацыяналістычных рухаў. Нягледзячы на сваю цмянасць і непаслядоўнасць, Маззіні і яго паслядоўнікі-карбанарыі стаялі за аб'яднаную, дэмакратычную Італію, з рэспубліканскай канстытуцыяй, заснаванай на французскіх мадэлях. Арганізацыя Маззіні пад назвай Маладая Еўропа дала палітычную форму веры Гердэра ў асаблівую якасць кожнай нацыі і захапленню Русо спецыфічнымі ўстановамі і звычаямі такіх народаў, як яўрэі, карсіканцы і палякі. У самой Францыі ліберальную нацыяналістычную традыцыю правёдзіў гісторык Мішле, насуперак тэакратычным і контррэвалюцыйным поглядам такіх кансерватараў, як дэ Мэстр і Бональд. У Германіі такія ліберальныя канстытуцыяналісты, як Ротэк і Велкер, сталі аратарамі, заклікаўшымі да нацыянальных спадзяванняў сярэдніх класаў рэйнскіх земляў. Але пасля 1830 года французскія ліберальныя ўплывы былі выцесненыя больш кансерватыўнымі англасаксонскімі мадэлямі, і такія гісторыкі, як Далман, пачалі спавядаць больш гіерархічную і манархісцкую нацыянальную ідэю. Аднак да 1848 года ўздым нацыянальнае ідэі ў большасці еўрапейскіх краінаў быў у асноўным звязаны з лібералізмам.

## ІМПЕРЫЯЛІЗМ І АДДЗЯЛЕННІ

Рэакцыя, якая надышла пасля рэвалюцыяў 1848 года, разыходжанне паміж нацыяналізмам і лібералізмам, якое праявілася тым часам, і больш за ўсё схільнасць да кансалідацыі дома і анексіяў за межамі хутка падмылі ліберальна-нацыяналістычны ідэал. Як можна было чакаць, гэтыя падзеі ўзмацнілі традыцыяналісцкія версіі нацыяналізму; якія стварылі новы від імперыялістычнага нацыяналізму і сталі сведкамі зеніту рухаў за нацыянальнае адасабленне ва Усходняй Еўропе.

З 1848 па 1890-я гады традыцыяналісцкія нацыяналістычныя рухі мелі моцныя ўплывы на еўрапейскую палітыку і нават з'явіліся ў далёкай Японіі. Кіруючы клас і манарх ушаноўваліся як увасабленне нацыі, пры гэтым яе гіерархія і традыцыі выражалі сутнасць гістарычнай культуры нацыі і сацыяльнага адзінства. У той жа час гэтыя нацыяналістычныя рухі мелі агрэсіўны мадэрнізуючы напрамак, з моцнымі мілітарысцкімі адценнямі. Некаторыя з гэтых ідэяў з'яўляюцца ў працах расейскіх славянафілаў, але іх сапраўднай радзімай была бісмаркаўская Германія, дзе Лагардэ і больш за ўсіх Трэйчке прапанавалі моцную абаронную ідэалогію нямецкай дзяржавы і нацыянальнага адзінства, што ўжо зусім не нагадвала ліберальны канстытуцыяналізм ранняга арганічнага нацыяналізму Бурке.

У супрацьлегласць такому дынастычнаму і ваеннаму нацыяналізму розныя падпарадкаваныя народы распрацоўвалі сваю ўласную нацыянальную ідэю. У сваёй сутнасці яны грунтаваліся на праве народаў з вызначанымі гістарычнымі культурамі адасобіцца ад імперыі і ўсталяваць уласныя нацыянальныя дзяржавы. Этнічны змест такога нацыянальнага адасаблення пайшоў значна далей усяго таго, што нёс у сабе прынцып Канта аб "самавызначэнні", нават пасля паправак, унесеных Фіхтэ і яго паслядоўнікамі. Ён таксама не быў абмежаваны крытэрыем мовы, унесеным нямецкім рамантызмам. Сярод сербаў і харватаў, палякаў і чэхаў, венграў, румынаў, балгараў, украінцаў і яўрэяў рэлігія, звычаі і больш за ўсё гістарычныя антаганізмы дапамагалі вызначэнню зместу нацыянальнае ідэі, дапасаванай да патрэбаў этнічных меншасцяў, замкнутых у складзе вялікіх імперыяў. Этнічныя сепаратысты былі адначасова і дэмакратамі, і кансерватарамі. Яны змагаліся з прыгнятаючымі і дэспатычнымі тыранамі дзеля ўсяго народа гістарычнай нацыі; тым не менш сама неабходнасць абараняць свае карані і гістарычную саматоеснасць супраць уладцаў і прыгнятальнікаў непазбежна надавала містычныя і архаізаваныя адценні іхняму паўстанню. Адраджэнне гісторыі, звычаяў і мовы дапамагала мінуламу вызначаць будучыню гэтых народаў у не меншай ступені, чым проста служыць ім.

Паколькі такія этнічныя сепаратызмы часцяком разглядаліся як увасабленне і крытэрыі дзеля ўсіх нацыяналістычных рухаў і нават іх класічным выяўленнем, трэба нагадаць сабе, што фактычна яны складаюць толькі адну версію нацыянальнае ідэі, у тае ступені, як яна пашыралася ў дзевятнаццатым стагоддзі. Сама Еўропа распрацоўвала іншыя версіі. Адна з іх, новы імперыялістычны нацыяналізм, мела глабальныя вынікі. Асабліва пасля 1870 года, калі гэтая ідэя аб імперыяльным абавязку анексіраваць, вучыць і вестэрнізаваць чужыя народы за мяжой, каб яны сталі прымальнымі грамадзянамі краіны-метраполіі, заваявала пылкую падтрымку ў некаторых заходніх еўрапейскіх дзяржавах. Францыя ўяўляе сабой класічны прыклад гэтага. У Афрыцы французская каланіяльная палітыка намагалася "асіміляваць" афрыканскую эліту ў такіх краінах, як Сенегал і Бераг Слановай Косці, і пераўтварыць іх у чорных французаў з такімі ж палітычнымі правамі, як французы ў метраполіі. Для гэтай мэты афрыканскіх evolués вучылі французскай гісторыі і натхнялі любоўю да французскай літаратуры і мовы. У больш жорсткай версіі расейскія ўладцы намагаліся русіфікаваць, а часцяком і хрысціянізаваць нерасейскія этнічныя групы, што былі далучаныя да імперыі ў выніку анексіі цэнтральнай Азіі і на Каўказе ў сярэдзіне дзевятнаццатага стагоддзя. Але тут і сродкі былі больш жорсткімі. Яны прадугледжвалі масіўны наплыў расейскіх каланістаў і настойванне на ўжыванні расейскай мовы як lingua franca, і неўзабаве выклікалі сур'ёзную незадаволенасць сярод ісламскіх і цюркскіх народаў.

У некаторым сэнсе імперыялістычныя нацыяналістычныя рухі супярэчылі самі сабе. Яны прадбачылі свет паралельных нацыяў, кожная з якіх мае ўласную гістарычную культуру, тым не менш яны намагаліся выцерці гэтыя культуры, каб забяспечыць імперскую асіміляцыю і аднароднасць. Брытанцы, безумоўна, паказвалі разуменне праблемы. Ва ўсялякім выпадку яны намагаліся, хаця і беспаспяхова, пазбегнуць супярэчнасці праз палітыку ўскоснага кіравання, праз мясцовых кіраўнікоў, асабліва ў Афрыцы. Нягледзячы на гэта, нацыянальная ідэя непазбежна скажалася, і ў эру расавага дарвінізму з яе паўстала расавая ідэя, якая пагражала падмыць усю канцэпцыю нацыяналізму.

## ПАПУЛІЗМ І АНТЫКАЛАНІЯЛІЗМ

Пасля эканамічнае крызы 1870-х і барацьбы за імперыю з'явіліся дзве новыя версіі нацыяналізму, якія паказалі сябе вельмі ўплывовымі ў наступным стагоддзі: папулізм і антыкаланіялізм. Папулізм быў у асноўным рэакцыяй ніжэйшых пластоў і некаторых бяздомных інтэлектуалаў на рэальную пагрозу масавай індустрыялізацыі. Рост вялікіх гарадоў і трушчобаў, вялікі наплыў гарадскіх беспрацоўных, пашырэнне акадэмічнага пралетарыяту, усё гэта, звязанае з распаўсюджваннем індустрыяльнага капіталізму, ставіла галоўную пагрозу дабрабыту і статусу гэтых бескарэнных пластоў. Папулізм ідэалізаваў невялікіх прадпрымальнікаў і ўхваляў прыгажосць вясковага і местачковага жыцця ў супрацьпастаўленне вялікай індустрыі, вялікім гарадам і аб'яднанням. І калі інтэлектуалы пачалі ідэнтыфікаваць маленькага чалавека з "народам", а народ з "нацыяй", настойваючы на вяртанні да простага жыцця ў вёсцы й мястэчку, народжаны гэтым папулісцкі нацыяналізм знайшоў масавую падтрымку.

Існуюць, безумоўна, некалькі разнастайных версіяў папулізму. Версія, якая расквітнела сярод дробных амерыканскіх фермераў, выяўляла іх фундаментальную варожасць да капіталізму і жыцця ў вялікіх гарадах у форме дэмакратычнай ксенафобіі. Іншая версія — папулізм інтэлігенцыі, які звяртаецца да сялянства і ўшаноўвае сялянскую абшчынную арганізацыю, з'явілася ў Расіі ў 1870-я гады і натхніла некаторыя камуністычна-нацыяналістычныя рухі ў слабаразвітых краінах у гэтым стагоддзі. Нарэшце, існаваў папулісцкі нацыяналізм нядаўна урбанізаваных ніжэйшых сярэдніх класаў, асабліва ў такіх этнічна мяшаных тэрыторыях, як цэнтральная і усходняя Еўропа. У гэтым выпадку расісцкія дэмагогі хутка распалілі страхі перад беспрацоўнымі і бескарэннымі імігрантамі і звялі "сапраўдную" нацыю да народных і расавых элементаў, якія маюць карані ў рознай зямельцы, і гэта ў той самы момант, калі мігранты адчувалі сябе найбольш бяздомнымі. Тут ёсць пэўная сувязь паміж нацыяналізмам і расісцкі зарыентаваным фашызмам, і небяспека, якая можа прывесці да поўнага скажэння нацыянальнае ідэі.

1870-я гады таксама былі сведкамі першых водгукаў азіятаў і афрыканцаў на еўрапейскія імперыяльна-нацыяналістычныя рухі. Пасля таго як аслаб пачатковы супраціў каланіяльнаму варванню, паўстаў новы від нацыяналізму сярод зарыентаваных на захад элітаў. У Індыі, напрыклад, англізаваная інтэлігенцыя аб'ядналася з набіраючым моц класам гандляроў і сфармавала Партыю Кангрэсу ў 1885 годзе. Напачатку іх патрабаванні былі ў большасці ліберальнымі і канстытуцыйнымі, яны спрабавалі дасягнуць большай прадстаўленасці і больш роўных правоў у межах імперыі. Толькі пазней, і пад уплывам больш традыцыяналісцкага нацыяналізму пад кіраўніцтвам Тылака, лібералы ўзнялі антыкаланіяльны сцяг і запатрабавалі суверэнітэту. Брытанская Заходняя Афрыка перажыла падобныя падзеі. Напачатку новыя гарадскія эліты былі больш зацікаўленыя ў забеспячэнні большай прадстаўленасці ў заканадаўчых установах ці каланіяльнай адміністрацыі ў С'ера-Леонэ, Залатым Беразе і Нігерыі. Пад уплывам Хортана і Блідэна яны хацелі прадэманстраваць парытэт афрыканскай нацыі з хрысціянскім Захадам; і толькі пазней, пасля сусветнай вайны, яны пачалі патрабаваць самакіравання і незалежнасці для калоніяў.

За частковым выключэннем Індыі краіны Азіі і Афрыкі былі слаба закранутыя індустрыялізацыяй альбо таварным капіталізмам у дзевятнаццатым стагоддзі, і тыя нацыянальныя буржуазіі, што былі ў гэтых краінах, былі ў большасці падпарадкаваныя замежным інтарэсам. Вынікам было тое, што нацыянальная ідэя была прыдатная адно да невялікіх колаў інтэлектуалаў, студэнтаў і людзей вольных прафесіяў, чыя палітычная адукацыя збольшага была заснаваная на ліберальна-дэмакратычных і хрысціянскіх прынцыпах, распрацаваных у тэорыі іх імперыялістычнымі гаспадарамі. Такім чынам, іх нацыяналізм быў у асноўным ліберальным і дэмакратычным па арыентацыі, яму бракавала глыбокага культурнага зместу і апеляцыі да народа. Толькі праз альянс з традыцыяналісцкімі рэлігійнымі ці расавымі пачуццямі нацыянальная ідэя магла заваяваць аўдыторыю і атрымаць гістарычны змест.

Такім чынам, тры тыпы нацыяналізму з'явіліся напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя па-за межамі Еўропы. Першы нагадваў еўрапейскую версію традыцыяналізму і пайшоў з Японіі, дзе імператары і іхнія дарадчыкі выкарыстоўвалі сучасныя метады і канцэпцыі для падтрымкі традыцыйнага зместу японскай нацыянальнай культуры, у кантрасце з Кітаем, дзе старая канцэпцыя дынастычнай "цывілізацыі" яшчэ не была замененая новай ідэяй "нацыі". Другі тып нацыяналізму ў асноўным назіраўся на Сярэднім Усходзе, дзе этнічны сепаратызм усходнееўрапейскага тыпу быў падхоплены армянамі, грузінамі і, пазней, арабамі. Нарэшце, вестэрнізаваныя інтэлігенцыі ў Індыі, Егіпце і заходняй Афрыцы пачалі ўводзіць першую ліберальна-канстытуцыйную фазу антыкаланіяльнага нацыяналізму, якая добра падыходзіла да іх пазіцыі аб неабходнасці мадэрнізацыі перад надыходам эры незалежнасці.

## АДЗІНСТВА НАЦЫЯНАЛІЗМУ

Нават з гэтага кароткага агляду бачна, як лёгка нацыянальная ідэя пашыралася і разнастаілася для адпаведнасці геапалітычным сітуацыям і сацыяльным патрэбам. Фактычна аніколі не было адзінай версіі нацыяналізму, і няма карысці ў пошуку якой-небудзь "сапраўднае" дактрыны ці "праўдзівага" руху, каб ён служыў крытэрыем для ўсіх наступных выпадкаў. Пачынаючы з ейнага паўставання ў васемнаццатым стагоддзі, мы бачым розныя канцэптуальныя версіі гэтай ідэі ў працах Болінброка і Бурке, Монтэск'ё, Русо і Сіе, Джэферсана, Гердэра і Фіхтэ, Алфіеры і Мазіні. Ужо ў 1930-х гадах Карлтан Хаес прадэманстраваў гэтую ідэалагічную разнастайнасць і багацце. І, такім чынам, наўрад ці дзіўна, што ідэя, якой нестае цэнтральнай традыцыі, адзінага прароцтва ці біблейскага канону, павінна была прайсці такія шматлікія трансфармацыі.

Нягледзячы на гэтую пратэанскую разнастайнасць, усе версіі нацыяналізму шчыльна ўзаемазвязаны. Яны фармуюць розных членаў адной ідэалагічнай сям'і з яе спецыфічным светаглядам, культурай, салідарнасцю і чыннасцю. Хаця кожны нацыяналізм дадае свае ўласныя матывы і тэорыі, ён заўсёды застаецца дактрынай гісторыі і лёсу "нацыі", яе цэласнасці, адзінства, што супрацьпастаўлена такім важным сучасным задзіночанням, як "секта", "дзяржава", "раса" ці "клас".

Фактычна наступныя раздзелы маюць мэтай разгарнуць гэтую нацыяналістычную ідэю і дактрыну ў сувязі з ідэалагічнымі выклікамі, якія ім давялося сустрэць на працягу гэтага стагоддзя з боку тых, хто падтрымліваў ідэі канкурэнтных супольнасцяў. Нягледзячы на свае разнастайныя аблічы, нацыяналізм выяўляе сябе адзінствам з яснымі контурамі, калі сустракаецца з чаргуючыміся выклікамі хіліястычнага, фашысцкага, расісцкага і камуністычнага рухаў. Ужо ў дзевятнаццатым стагоддзі нацыяналізму давялося сустрэцца з крытыкай артадаксальных рэлігійных лідэраў і некаторых ліберальных дэмакратаў. Пазней ён перажыў выклік марксісцкага сацыялізму. Але толькі ў гэтым стагоддзі выклікі сталі татальнымі. Нацыяналізм заклікалі супрацьстаяць наступу спачатку расісцкага фашызму, а затым эвалюцыйнага камунізму. У абодвух выпадках ён прымаў выклік і пераадольваў крызу, справакаваную гэтымі двума супрацьлеглымі рухамі "выратавання свету", — праз дапасаванне, пашырэнне і трансфармаванне сябе згодна з патрабаваннямі сітуацыі. Пры гэтым ён быў гатовы ўзяць лозунгі і міфы сваіх канкурэнтаў, і часта яны эксплуатавалі ягоныя. Тым не менш, ён заўсёды перажываў іх, паказваючы сябе больш прывабным, больш гнуткім і больш чэпкім, чым ягоныя канкурэнты.

**Пераклаў з ангельскай Сяржук НАГОРНЫ**

МАСТЫХІН



*І сёння выбух жудасны блішчыць*
*Мільёнамі слязінак, як і ўчора...*
***(Сяргей Давідовіч, паэма "Зона")***

# ЛЮСТЭРКА ЛЁСУ

Хутка дзевяць гадоў з таго часу, як Чарнобыльскі Молах скалануў нашу радзіму і амаль усю планету. Скалануў сваёй бессэнсоўнасцю, жорсткасцю, непрадбачанасцю, маштабнасцю страт для Беларусі, якія можна параўнаць з ваенным часам. Таму мастакі і паэты зноў і зноў асэнсоўваюць гэтую трагедыю.

У Беларускім таварыстве дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі адбылася прэзентацыя выставы "Наш вечны боль" Сяргея Давідовіча. Яго светлыя, лёгкія пейзажы, што былі выстаўлены ў фае, сімвалізавалі як бы дачарнобыльскі час. А творы асноўнай экспазіцыі былі зусім іншымі: шэрыя колеры, чорныя і белыя кантрасты...

Гледачы, сярод якіх былі паслы замежных дзяржаў, вучоныя, пісьменнікі і мастакі, высока ацанілі працы Сяргея Давідовіча.

— Некалькі мастакоў, наколькі я ведаю, сур'ёзна распрацоўваюць у сваёй творчасці тэму Чарнобыля, сярод іх і Сяргей Давідовіч, — адзначыў Іван Кенік, міністр па справах Чарнобыля. — Запомнілася, як на прэзентацыі ў Нью-Ёрку Аляксандр Кішчанка сказаў: "Людзі, супыніце сваю гардыню. Не вы ўсясільныя над прыродай, над атамам. Бог за пыхлівасць карае." Тут я ўбачыў, як мастак сілаю свайго таленту і свайго майстэрства заклікае да гарманічнага суіснавання з прыродай, з атамам і з усім светам...

... "Гэта не першае маё знаёмства з творчасцю Сяргея Давідовіча, — сказаў мастак Георгій Паплаўскі. — Першая ягоная выстава пейзажаў была тут, у Доме дружбы. Яна зрабіла ўражанне шчырасцю і яшчэ нейкай асаблівай паэтычнасцю. Мы, прафесіяналы, грашым пэўнай "зададзенасцю". Праходзячы каля якога-небудзь прыгожага месца, ужо адразу прыкідваем — гэта эцюд альбо карціна? А ў яго ўсё гэта атрымліваецца вельмі шчыра. Я бачыў і яго выставу ў Траецкім прадмесці каля двух месяцаў таму на тэму Чарнобыля, — і быў уражаны, якая метамарфоза адбылася з мастаком. Ад прыгожых пейзажаў, ад прыроды — такая сацыяльная тэма. І кожная карціна як набат! І ён, як паэт, знайшоў тут свае вобразы, свае сімвалы. Менавіта свае. Нават хрысціянска-біблейскія, каля якіх мы, прафесіяналы, раўнадушна праходзім, бо лічым іх "зацёртымі штампамі."

Мне цікава было гутарыць з Сяргеем Давідовічам — старшынёй Камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, аўтарам кнігі "Люстэрка лёсу".

— Да паэзіі я прыйшоў даволі даўно, хаця па-беларуску пішу нядаўна, — расказаў Сяргей... — Кніга паэм "Люстэрка лёсу" выйшла ў 1993 годзе, пасля чаго мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў Беларусі, хаця я нават не марыў аб гэтым. А пачаў я, як паэт-песеннік, яшчэ працуючы ў міліцыі, у Лагойскім раёне. На мае словы напісана каля 50 песень, я працаваў амаль з усімі кампазітарамі Беларусі.

Да жывапісу ж звярнуўся пяць гадоў таму нечакана для самога сябе. Мы з жонкай любім хадзіць на мастацкія выставы, вернісажы, бо я заўсёды захапляўся пейзажамі. Глядзеў я на карціны, і вельмі хацелася паспрабаваць самому намаляваць, але ўсё духу не хапала, ды і жыццё было складанае.

Не было кватэры, грошай таксама. Ды і часу бракавала. Але ж пяць гадоў таму я ўзяўся-такі за пэндзаль. З якім хваляваннем падыходзіў да палатна! І напісаў сваю першую карціну. Яна дасюль у мяне дома. Цяжка было спачатку разабрацца з колерам, я ж нідзе не вучыўся, да ўсяго даходзіў сам. Далей захацелася паспрабаваць нешта іншае, апроч пейзажаў — напрыклад, выказаць трывогу за Бацькаўшчыну, за людзей, за сённяшні дзень. Пачаў пісаць сацыяльна-палітычныя, даволі вострыя сюжэты.

Да чарнобыльскай тэматыкі я падышоў больш-менш падрыхтаваны. Калі ж я ўбачыў каля маіх карцін людзей, якія плакалі, — зразумеў, што гэтая тэма балючая не толькі для мяне. Жанчыны з Хойнікаў, Брагіна ўбачылі сябе на гэтых палотнах.

Я ж сам і сёння жыву ў зоне. На Лагойшчыне ёсць забруджаная радыенуклідамі пляма: некалькі вёсак, і сярод іх мая Карпілаўка, дзе з першых дзён Чарнобыля плацяць так званыя "грабавыя", як на Гомельшчыне. У нас нельга збіраць ні ягад, ні грыбоў, агародніну трэба правяраць. Я бачыў шмат памерлых дзяцей у нашых вёсках. У мяне хворая на шчытападобную залозу дачка, жонка і хворы я сам. Жонцы зрабілі аперацыю, цяпер я да яе рыхтуюся. Можа, ад гэтага ў карцінах такі боль, што я пераўжыў яго ўсім сэрцам...

Да паэзіі і жывапісу, на мой погляд, трэба падыходзіць з пазіцыі той зямлі і тых людзей, дзе ты нарадзіўся, дзе ты жывеш. Гэта маё галоўнае патрабаванне да самога сябе. Гэта тое, што дае мне сілы. Сёння цяжка жыць усім, мне таксама. Карціны свае пішу ў закуточку, у праходзіку, куды ледзь пралазіць падрамнік."

Часам здаецца, што палкоўнік міліцыі, дэпутат Вярхоўнай Рады, паэт, мастак — гэта несумяшчальныя рэчы. Аднак Сяргей Давідовіч спалучае гэта ў сабе. І яму ёсць што сказаць людзям. Нездарма ж ён атрымаў запрашэнне паказаць сваю выставу ў Германіі, Люксембурзе, Аўстрыі, Злучаных Штатах Амерыкі. Сапраўды, такія палотны, як "Першамай-86", "Самасёлы", "Я хачу жыць, мама!", "За што ты, Божа", "Пад чорным сонцам", "Чарнобыльскія светлячкі", "Сустрэліся два горы" і шмат іншых немагчыма глядзець без хвалявання і болю ў сэрцы. Чорныя капелюшы-кіраўнікі, якія, ведаючы радыяцыйнае становішча, раўнадушна адпраўляюць калоны дарослых і дзетак у небыццё альбо ў хваробы, што будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне, — вось толькі адзін з сюжэтаў гэтай выставы. І верыш таму, што мастак-паэт пісаў у паэме "Зона" з кнігі "Люстэрка лёсу":

*Я так хацеў вас падтрымаць,*
*людцы,*
*Пад ваш цяжар і боль плячо*
*падставіць,*
*Каб перасталі на душы рубцы*
*Хай не зусім балець —*
*хаця б крываваць...*

Зараз нямала гаворыцца аб стварэнні музея Чарнобыля — такога, як, напрыклад, Музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Нам здаецца — у гэтым музеі дастойнае месца павінны заняць і карціны мастака Сяргея Давідовіча.

Сярод многіх водгукаў на выставу ёсць і радкі Арсена Ваніцкага, старшыні Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, якімі хочацца закончыць гэтыя нататкі з выставы: "Успрымаючы сэрцам змест Вашых твораў, яшчэ раз пераконваюся ў здольнасці беларуса адлюстроўваць жыццё ўсімі існуючымі фарбамі і магчымасцямі паэтычнага слова. Не кожны, а толькі лепшыя на свеце на гэта здатныя."

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**



# АПАНТАНЫЯ БАРХАТКОВЫ





У Рэспубліканскай мастацкай галерэі закончыла работу выстава рэалістычнага жывапісу Антона, Вітольда, Ігара і Алены Бархатковых. Неяк у адным радыёінтэрв'ю малодшы сын Антона Стэфанавіча кінуў фразу: "На жаль, нас, мастакоў-рэалістаў, становіцца ўсё менш...". Так, у пэўным сэнсе Ігар мае рацыю, і тым больш каштоўная экспазіцыя, якую я ўспрыняў як лірычную споведзь, узнёслы гімн прыродзе, дарам зямлі.

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Антон Бархаткоў больш чым паўвека ўдзельнічае ў выставах. Ягоныя тонкія пейзажныя карціны — нібы паэтычны роздум сучасніка, у якім гучаць галасы радасці і смутку, складанага жыццёвага вопыту і рамантычных памкненняў. Вучань В.Крымава, С.Герасімава і Э.Мачальскага, блізкі сябра В.Бялыніцкага-Бірулі, ён беззапаветна ўлюбёны ў прыроду. Але якая цяжкая гэтая ўяўная лёгкасць пэндзля, які далёкі маэстра ад няхітрага паўтору натуры!

Ігар Бархаткоў — выпускнік БДТМІ, стажыраваўся ў творчай майстэрні М.Савіцкага Акадэміі мастацтваў і ў Германіі. 13 гадоў удзельнічае на выставах. А пачынаў ён як стваральнік шматфігурных карцін. На выставе прадстаўлены, у асноўным, пейзажы, некалькі нацюрмортаў і сюжэтных кампазіцый. Крэда Ігара — класічны рэалізм, і ў гэтым ён годны вучань свайго бацькі.

Ветлівасць, чалавечнасць, жаноцкая рамантычнасць пранізваюць пейзажы і нацюрморты Алены, жонкі Ігара, выхаванкі Мінскай мастацкай вучэльні. Бэз, яблыкі, званочкі, вечаровыя нацюрмортавыя пастаралі, лета — у кожным матыве яе натхнення.

Вітольд, старэйшы сын Антона Стэфанавіча, жыве і працуе ў штаце Джорджыя, ЗША. У свой час скончыў Мінскую мастацкую вучэльню і БДТМІ. У 1991 годзе адбыліся яго персанальныя выставы ў ЗША і Канадзе. Піша пейзажы, нацюрморты, партрэты. Любіць жывапіс эмацыянальны, шырокі, трапяткі. Дыяпазон адценняў спакойнай і задуменнай лірыкі дастаткова шырокі, аднак яе асноўная інтанацыя не мяняецца, што б мастак ні адлюстроўваў — вясенні сад, чырвоны сельскі дамок або восеньскую сканцэнтраванасць...

Словам, усе Бархатковы апантана любяць сваю родную зямлю...

*На здымках:*
Ігар Бархаткоў. "Капліца";
Алена Бархаткова. "Нацюрморт з бэзам";
Антон Бархаткоў. "Дарога на Радашковічы";
Вітальд Бархаткоў. "Ігар".

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**





## ЗАМЕСТ КРОПКІ



# Злітуйцеся, спадар Эроціч: пры чым тут Бог?

Самавыражэнне — неад'емнае права кожнага мастака, творцы, увогуле асобы. Эпатаж, хоць і з'яўляецца скандальнай выхадкай, можа быць нават сродкам дзеля дасягнення пэўнага мастацкага выніку. У рэшце рэшт, XX стагоддзе — гэта стагоддзе неўтаймаванай шматстайнасці эстэтычных канцэпцый, тэорый, мадэляў. Пад кожную з іх падкладваліся пэўныя філасофіі ці, наадварот, філасофскія тэзы расшыфроўвалі (ілюстравалі?) мастацкімі мадэлямі. Шалёнае стагоддзе ў сваіх піках шаленства спараджала адпаведнае мастацтва. Пра плюсы і мінусы гэтых з'яў напісаны горы кніг, трактатаў, артыкулаў. Штосьці ўзнікала на імгненне, іншае існавала працяглы час, развівалася. Тое-сёе стала класікай, а нешта зафіксавалася. Як факт гісторыі культуры. Усё можа быць, усё варта паспытаць.

Толькі вось адліўшы "кока-колы", не варта выхваляцца, што мела яна смак добрага віна. Культура кока-колы... Развянчанне ўсяго святога. Наперад з эпатажам! — крычаць адны, іншыя ж сур'ёзна разважаюць: куды наперад? А што далей? Трэція разгублена шукаюць каранёў, традыцый, вечнага. Вось ён, вынік шляху мадэрнісцкага мастацтва напрыканцы стагоддзя. Рэальнасць Захаду і перспектыва Усходу.

Я не ханжа, лічу сябе свабодным і раскаваным чалавекам. Не ўздрыгваю ад жаху ад аголенага цела. Але я не перажываю ні катарсісу, ні аргазму, убачыўшы, як на людзях ствараюць "мастацкі акт". Не заплачу ад узрушэння. Хай спадары мастакі малююць на жывой натуры. І будуць маляваць яшчэ доўга, бо ў палку нуварышаў будзе прыбываць. І, зрэшты, гэта зусім нармальна: кожны шукае свой шлях. Ці мала чаго сёння дзеецца ў рэстаранах? Не ў гэтым зрушыліся мазгі. У іншым — у маніфесце, у абгрунтаваннях свайго "мастацкага акта".

Ханжаствам і невуцтвам на мяжы з цынізмам патыхнула ад інтэрв'ю, якое даў для радыё "ВА" сп.Эроціч. Аказваецца, рабілася ўсё гэта з мэтай дагнаць прагрэсіўнае мастацтва Захаду, ад якога мы неймаверна адсталі. Вось дык адкрыццё... Бачце, у гэтым эталон сусветнага мастацтва, і ўсе творцы ўсіх краін, кінуўшы сваю традыцыю, свае метады, урэшце сваё індывідуальнае бачанне і разуменне мастацтва павінны зараз маляваць не на палатне, а, прабачце, на...? Існуе ісціна, што мастацтва, можа быць любых стыляў, напрамкаў, жанраў, а каштоўнасць (і прагрэсіўнасць) яго вымяраецца майстэрствам і вобразнай глыбінёй, ступенню дасканалага дасягнення пастаўленых самім жа мастаком мэтаў.

І яшчэ: ёсць нацыянальная традыцыя, існуе псіхалагічны і прасторава-часавы кантэкст асяроддзя, у якім працуе творца. Прабачце за банальнасць, але тое, што арганічна, натуральна для пратэстанцкага свету, зусім можа не быць такім у праваслаўна-каталіцкім грамадстве.

І тут самае галоўнае. За дзве-тры хвіліны інтэрв'ю сп.мастак некалькі разоў паўтарыў, што "дзякуючы Богу", "з дапамогай Бога" гэтая акцыя... Рэлігія і творчасць... Якраз тут і карэнне НАШАГА (хай і не прагрэсіўнага з пункту погляду "культуры кока-колы") мастацтва. Яно ў абразах, у святасці твару Божай маці. У адухоўленасці бачання свету...

Спадар Эроціч, малюйце, экзальтуйце, эпаціруйце. Але не плюйце ў калодзеж, з якога пілі, п'юць і будуць піць крынічную ваду яшчэ і ў трэцім тысячагоддзі. Зрэшты, даганяйце. Толькі не згубіце таго, што даў Вам Бог.

**Вячаслаў РАКІЦКІ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**
**Фота Аляксея СМОЛЬСКАГА**



## ЗАЛЕЖЫЦЬ АД КАНТЭКСТУ...

Тое, што адбылося ў клубе "Xantia" (памяшканне Дома афіцэраў) 7 лютага, называецца Першай эксклюзіўнай эратычнай мастацкай акцыяй "Пранікненне" і мела падзагаловак: перформэнс, бодзі-арт, жывапіс, графіка, скульптура, паэзія, музыка.

У кароткім пераказе гэта выглядала так. Спачатку зала, дзе гучала адпаведная "эратызаваная" музыка, напоўнілася дымам, як на канцэрце "хэві-мэтал". Потым з дыму з'явілася постаць у белым з нейкім падабенствам кароны егіпецкай царыцы на галаве. З'явілася ў суправаджэнні двух хлапцоў. Адзін быў апрануты пад каталіцкага манаха (Андрэй Вераб'ёў) другі — пад араба (Алесь Эроціч-Тарановіч). Потым гэтыя двое пачалі разгортваць жанчыну, як мумію. Аголеную мадэльку паклалі на падлогу на крыж з белай тканіны і пачалі размалёўваць. Размалёваную зноў закруцілі ў палатно і правод зілі са "сцэны". Вось і ўсё... Але, канешне ж, не ўсё. Бо гаворка ідзе пра тэатральную — ці хутчэй, тэатралізаваную дзею, дзе галоўнае — адпаведны настрой залы і натхненне выканаўцаў. Зала была настроена, як мне падаецца, на больш "крутое" дзейства, так што гэтае ўспрыняла спакойна і, можа, з пэўнай доляй расчараванасці. Што ж датычыць "артыстаў", дык яны адчувалі сябе разняволена і ўзнёсла, бо ігралі для сваіх і для публікі, якой было проста наканавана прыняць імпрэзу прыхільна.

Можна колькі заўгодна спрачацца пра метафарычны сэнс гэтай акцыі; пра тое, наколькі гэта адпавядае агульнапрынятым эстэтычным крытэрыям, зрэшты — гэта авангард альбо запозненае далучэнне да еўрапейскай традыцыі. Але ўсе гэтыя спрэчкі адразу перакрэслівае адно слова — "упершыню". Так, упершыню, значыцца беспрэцэдэнтна. Няма з чым параўноўваць, значыць, няма пра што асабліва і гаварыць. Пройдзе час, і будзе бачна, якая расліна атрымаецца з гэтага семені, ці прарасце яно ўвогуле на нашай глебе.

Ёсць пэўная сімвалічнасць ў тым, што акцыя адбылася ў памяшканні кавярні Дома афіцэраў. Калі прыняць да веры сцвярджэнне, што сцены акумулююць псіхічную энергію, дык тая кавярня — месца небяспечнае. Як вядома, Дом афіцэраў пабудаваны на падмурку разбуранага бальшавікамі храма. На месцы кавярні доўгі час быў цір спартовага клуба арміі. Потым памяшканню знайшлі іншае прызначэнне. Калі паміраў нейкі генерал, дык труну ставілі ў зале на другім паверсе, дзе звычайна ладзіліся танцы. Каб не цягаць труну ўверх-уніз па прыступках ды не губляць надзейны прыбытак ад танцавальных вечароў, вырашылі на месцы ціра зрабіць спецыяльную жалобную залу. А ў часе пераходу да рынку гэтую залу пераабсталявалі пад кавярню, каб прыносіла прыбытак паміж хаўтурамі. У гэтай вось зале і ладзілі сваю імпрэзу Эроціч і Вераб'ёў. Кажуць, калі з храма сыходзіць Бог, у яго ўсяляецца д'ябал. Я не ведаю, ці памянёная акцыя авангардыстаў упісваецца ў гэткі кантэкст, ці наадварот — спрыяе ачышчэнню храма. Ачышчэнню праз мастацтва, калі гэта — мастацтва...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**


КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
**выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік —
**Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

Нам.галоўнага рэдактара —
**Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**
**А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, В. ІПАТАВА, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камгутарная вёрстка — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.
©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 179
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**


**АНОНС!**



***У адным з бліжэйшых нумароў чытайце: 75 год УНОВІСу — спадчына Казіміра Малевіча ў кантэксце сучаснага Віцебска.***